16 ліпеня 2021 | № 27 (735)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**«Засвяціла надзея вызвалення і вяртання да незалежнасці»**

стар. 10-11



# Час быць святлом

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Калі вонкавы пратэст сціх, а рэпрэсіі не спыніліся, стала зразумела, што рана ці позна прыйдуць да кожнага, хто думае інакш, — гэта толькі пытанне часу.**

Гэтае разуменне навучыла нас аднной важнай рэчы: напоўніцу цаніць тое, што мы маем тут і цяпер. Як гэта ні парадаксальна, жыць, а не выжываць. Адчуваць, а не трываць.

Спачатку гэта было нейк няёмка: людзі пакутуюць у турмах, а ты ідзеш на канцэрт ці бавіш час у прыемным месцы. Выкласці ў сацсетках фота з усмешкай — сорамна, бо ім там — не да ўсмешак. І вось ужо адчуваеш згрызоты сумлення за тое, што кожная хвіліна тваёго расслабленага жыцця — чарговая хвіліна іх пакутаў.

Але насамрэч умець знаходзіць радасць сярод таго жаху, які штодня адбываецца навокал, калі ад ліпучага страху няма моцы нават проста прачнуцца, устаць, пайсці на працу, — гэта вялікае мастацтва і цяжкая праца. А ўмець быць шчаслівым у такіх варунках — найвышэйшы пілатаж. Больш за тое, гэта адказная місія — ззяць і быць светачам для іншых у час, калі святло згасла. І гэта могуць дазволіць сабе па-сапраўднаму моцныя людзі.

Аказалася, што Беларусь поўніцца светачамі. Як бы ні імкнуліся іх згасіць у турэмных засценках, іх святло «нахабна і мэтанакіравана» прабіваецца і асвятляе не толькі змрок іх камер, але і нашага жыцця на волі. Хочаце прыкладаў — пачытайце гісторыі нашых палітвязняў, а лепш — напішыце ім лісты, і ў адказ вы атрымаеце такую хвалю падтрымкі, якой, упэўненая, не адчувалі даўно.

8 ліпеня ў чарговы раз была здзейснена спроба загасіць сонца праўды. Гэтым разам замахнуліся на найстарэйшую беларускую газету «Наша Ніва». Пасля блакіроўкі сайта і затрымання супрацоўнікаў — галоўнага рэдактара Ягора Марціновіча, рэдактара часопісаў «Наша гісторыя», «Дуду» і «Асцярожна: дзеці!» Андрэя Дынько, кіраўніка аддзелу рэкламы і маркетынгу і аўтара «Нашай гісторыі» Андрэя Скурко і галоўнай бухгалтаркі Вольгі Раковіч многіх апанавала роспач, хаця, здаецца, з яе мы не выходзім увесь апошні год.

Мы перажываем за нашых калег, якіх праваабаронцы прызналі палітвязнямі, безумоўна асуджаем і лічым несправядлівым іх затрыманне. Але ў той жа час — бязмерна натхняемся імі, іх справамі і іх разуменнем жыцця.

Ягор Марціновіч амаль кожныя выходныя выпраўляўся ў вандроўкі па Беларусі. На момант затрымання ён не паспеў наведаць усяго пяць раёнаў нашай краіны — а іх, на хвілiначку, 118! Цягам года жывучы ў стане пастаяннага прэсінгу (Ягору забаранілі выезд за мяжу), чалавек знаходзіў у сабе сілы не занырацца ў роспач, а штодзень выпраўляцца па натхненне. Ягор цудоўна разумеў, што яго могуць пасадзіць. І ставіўся да гэтага па-філасофску: калі для лепшай будучыні краіны трэба апынуцца за кратамі,— значыць, трэба гэта прыняць, але не спыняцца і далей сумленна працаваць.

Андрэй Дынько перакананы, што сутнасць жыцця ў тым, каб множыць любоў. Ён падтрымліваў сем'і палітвязняў, падтрымліваў нас, калег, і пры гэтым не пераставаў плённа працаваць. Паплечнікі ўзгадваюць, што з яго фенаменальнымі здольнасцямі ён мог бы дасягнуць поспехаў у любой сферы, у любым бізнесе, але ён вырашыў, што яго задача — служыць беларускай ідэі і беларускаму слову. Пасля атакі на TUT.BY Андрэй сказаў: Пачобуту прапанавалі выехаць, а ён адмовіўся і застаўся сядзець у турме. Марыя Калеснікава парвала пашпарт. А я паеду? Так мала людзей прыйшло на пахаванне Вітольда Ашурка, хто ж застанецца, калі і я з'еду?

Глыбокі і інтэлігентны Андрэй Скурко аказаўся здольны пасмяяцца з любой, нават сур'ёзнай сітуацыі, якая ў кагосьці магла б выклікаць дэпрэсію. Па словах жонкі, падчасператрусу ён залагоджваў тое, што адбывалася, сваім гумарам. У сям'і Андрэя ніколі не абмяркоўвалі эміграцыю, таму што яны вельмі любяць родную краіну. Продкаў Андрэя раскулачвалі, высылалі ў Казахстан, там загінула яго прапрабабуля. Але ён не можа пакінуць зямлю сваіх дзядоў.

Заўжды жвавая і вясёлая Вольга Раковіч у апошнія напружаныя часы не адмовілася ад супрацы з «Нашай Нівай», хоць мае магчымасць працаваць з іншымі кампаніямі. Вольга шмат гадоў працуе бухгалтарам у «Нашай Ніве» — і прайшла дзясяткі праверак у розных прадпрыемствах, якія абслугоўвае. Яна заўсёды працавала ў межах закона, які добра ведае.

Усіх гэтых людзей аб'ядноўвае ідэя жыць і працаваць у Беларусі і дзеля яе. І іх пазіцыя выклікае найглыбейшую павагу. Скептыкі могуць сказаць, маўляў, каб яны з'ехалі, то былі б вольныя і прынеслі б больш карысці. Але хіба вы не бачыце, што нават у няволі яны працягваюць свяціць? Што справа іх жыве менавіта дзякуючы іх высілкам і прыкладу? І што іх ахвяраванне ўласнай свабодай набліжае свабоду агульную?

Таму ўсё, што мы цяпер павінны рабіць, — гэта як толькі можам падтрымліваць іх і іх сем'і, і, галоўнае, працягваць іх справу — не пераставаць казаць праўду, быць светачамі.

Бо калі мы «зганем», хто вызваліць нашых вязняў і Беларусь?

# Ні дня без ператрусу

**Мінулы тыдзень можа стаць рэкордным па колькасці ператрусаў у супрацоўнікаў беларускіх незалежных СМІ і грамадскіх актывістаў. Вашай увазе — дайджэст падзей, які больш нагадвае хроніку пераследу.**

8 ліпеня стала «чорным чацвяргом» для беларускіх незалежных СМІ: прайшлі шматлікія ператрусы ў рэгіянальных рэдакцыях, затрыманні супрацоўнікаў. Апроч таго Мінінфарм заблакаваў сайт «Нашай Нівы», у рэдакцыі і дома ў супрацоўнікаў прайшлі ператрусы. Галоўны рэдактар «Нашай Нівы» Ягор Марціновіч, Андрэй Дынько — галоўны рэдактар часопіса «Наша гісторыя» і дзіцячых «Дуду» і «Асцярожна: дзеці!», кіраўнік аддзела рэкламы і маркетынгу «НН» Андрэй Скурко і галоўны бухгалтар «НН» Вольга Раковіч праходзяць падазраванымі паводле ч.1 арт. 342 КК («Арганізацыя ці падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або ўдзел у іх»). Яны дастаўленыя ў ІЧУ на Акрэсціна, праваабаронцы прызналі іх палітвязнямі. Таксама затрымлівалі рэпарцёра «НН» Наталлю Лубнеўскую і фатографку Шуру Піліповіч-Сушчыц. Яны былі дапытаныя і адпушчаныя пад падпіску аб неразгалошванні.

У Оршы затрыманы праваабаронца і рэдактар сайта orsha.eu Ігар Казмерчак. У 6:30 раніцы 8 ліпеня ў яго распачаўся ператрус. Таксама а 6-й раніцы ператрус адбыўся ў фатографа сайта Дзяніса Дубкова. Яго вазілі на допыт, але праз некалькі гадзін адпусцілі. У рэдакцыю «Брэсцкай газеты» прыйшлі сілавікі. Таксама ў Брэсце была затрымана актывістка Аляксандра Гаўрусік. У рэдакцыю баранавіцкага недзяржаўнага выдання «Intex-Press» прыйшлі з вобшукам супрацоўнікі КДБ. Сілавікі прыйшлі ў кватэру фрылансера з Віцебска Змітра Казакевіча, аднак яго не было дома. Ператрус праводзілі на падставе крымінальнай справы за паклёп, заведзенай у дачыненні да нявызначанай асобы. Ператрус прайшоў і ў незалежнага журналіста Вячаслава Лазарава ў Віцебску. Зладзілі ператрус і ў рэдакцыі Media-Polesye.by. Таксама затрыманні і ператрусы прайшлі ў Докшыцах і Глыбокім. У Гомелі адбыліся ператрусы ў актывістаў Іллі Міронава і Васіля Палякова, абодвух затрымалі. Увечары затрымалі адміністратара фэйсбук-суполкі «Письма солидарности» Сяргея Барысава, пасля стала вядома, што яго арыштавалі на 5 сутак. Пасля адбыцця арышту ён выйшаў на волю.

Толькі ўвечары 8 ліпеня, хоць ператрусы пачаліся з самай раніцы, намеснік следчага ўпраўлення КДБ Канстанцін Бычак у эфіры тэлеканала «Беларусь 1» распавёў, што ў краіне трывае «шырокамаштабная аперацыя для зачысткі ад радыкальна настроеных асоб».

У пятніцу вобшукі ў журналістаў і актывістаў працягнуліся. Прыйшлі да журналістаў гомельскага парталу «Моцныя навіны», ператрусы прайшлі і ў яго заснавальніка Пятра Кузняцова, які пры гэтым не прысутнічаў, таму застаецца на волі.

Журналісты TUT.BY, якія з'ехалі за мяжу, стварылі новы медыя-рэсурс пад назвай Zerkalo.io. Аднак у першы ж дзень працы сайт перастаў адкрывацца на тэрыторыі Беларусі.

Тэлеграм-канал Hrodna.life прызналі «экстрэмісцкім». Суд быў закрытым. Паводле прадстаўніцы пракуратуры Юліі Іванчык, каментары на канале ўтрымлівалі інфармацыю, «накіраваную на распальванне іншай сацыяльнай варожасці ці розні». Яна адзначыла, што «сістэмных дзеянняў па спыненні распаўсюду экстрэмісцкай інфармацыі не праводзілі». На яе думку, гэтага дастаткова для прызнання Telegram-канала вінаватым у распаўсюдзе экстрэмісцкіх матэрыялаў і распальванні сацыяльнай варожасці.

Павел Латушка даў паказанні ў Акруговай пракуратуры ў Варшаве ў якасці пацярпелага па раней пададзенай заяве супраць прадстаўнікоў нелегітымнай улады. У заяве гаворыцца пра пагрозы фізічнай расправы і падрыхтоўку акта міжнароднага тэрарызму. Паведамляецца, што пракурору былі прадстаўлены факты пагроз асабістай бяспецы, жыццю і здароўю, а таксама прозвішчы і імёны ўсіх асоб, якія ажыццяўлялі публічныя і непублічныя пагрозы. «Усе тыя, хто сёння здзяйсняюць злачынствы ў нашай краіне, атрымаюць пакаранне. Нікому не ўдасца пазбегнуць адказнасці», — пераканаы Павел Латушка.

Міністэрства аховы здароўя Ізраіля 9 ліпеня паведаміла пра пашырэнне «чырвонага» спісу краін, якія ізраільцянам забаронена наведваць праз пагрозу заражэння каронавірусам: у спіс з 12 ліпеня ўключаны Беларусь і Узбекістан.

Журналісты Таццяна Каравянкова, Зміцер Лукашук і Віталь Цыганкоў з'ехалі з Беларусі.

Падчас дзяржаўнага свята ў Александрыі вецер узняў у паветра надзьмуваныя батуты. У выніку пацярпелі сем чалавек, у тым ліку дзеці. Здарэнне зняў на відэа прыватны прадпрымальнік з Брэста Павел Пятроўскі. Неўзабаве яго затрымаў КДБ. Прычынай стала ч.2 арт. 19.11 КаАП (Распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі, уключанай у рэспубліканскі спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў, а таксама выраб, выданне, захоўванне або перавозка такой інфармацыі). У выніку Павел Пятроўскі атрымаў 7 сутак арышту.

На лідара «Маладога фронту» Дзяніса Урбановіча завялі крымінальную справу. Актывіст змог перадаць гэтую інфармацыю праз чалавека, які адбываў разам з ім у камеры арышт. Які артыкул інкрымінуюць Урбановічу, невядома. Яго затрымалі ў Мінску 3 ліпеня.

Раніцай 12 ліпеня абаронцы Віктара Бабарыкі звярнуліся ў СІЗА-1 Мінска для наведвання падабароннага (мінулы раз яны наведвалі яго там у пятніцу, 9 ліпеня). Аднак ім паведамілі, што Віктар Бабарыка этапаваны ў ПК-1 у Наваполацк. Праўда, на момант падрыхтоўкі гэтага выпуску НЧ адвакаты не атрымалі пацверджання, што іх падабаронны там.

На мінулым тыдні ў РНПЦ дзіцячай хірургіі было выканана пяць найскладанейшых аперацый на сэрцы і сасудах у дзяцей, у тым ліку была выкананая аперацыя пры рэдкай паталогіі — таракаабдамінальнай анеўрызме брушной аорты ў 11-гадовага хлопчыка. «Анеўрызмы сустракаюцца ў дарослых, а вось у дзіцяці — упершыню ў сусветнай практыцы», — цытуе прэс-служба Мінздароўя дырэктара РНПЦ дзіцячай хірургіі Канстанціна Драздоўскага. Дзіця назіралася ў РНПЦ дзіцячай хірургіі 4 гады. Але гэтая паталогія як бомба — дзіця магло загінуць у любы момант. Агулам аперацыя доўжылася больш за 10 гадзін. Хлопчык адчувае сябе здавальняюча.

Заканчваецца судовы працэс па «справе студэнтаў», 12 ліпеня яны выступілі з апошнім словам. «Я выйшла не супраць улады, я выйшла супраць гвалту», — сказала адна з абвінавачаных. Фігурантамі праходзяць 12 чалавек, віну прызнаў толькі адзін з іх — пракурор запытаў яму 2 гады калоніі, астатнім — 2,5 гады. Прысуд будзе агучаны 16 ліпеня.

У судзе Кастрычніцкага раёна Магілёва 12 ліпеня па артыкуле 411 Крымінальнага кодэкса («Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы») пачалі судзіць 33-гадовага прадпрымальніка Віктара Барушку, асуджанага ў студзені на 5 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму па п. 5 ч. 2 арт. 147 КК за напад на амапаўца на «Партызанскім маршы».

Раніцай 13 ліпеня Аляксандр Лукашэнка нечакана прыляцеў у Санкт-Пецярбург. Там у яго адбылася чарговая сустрэча з Уладзімірам Пуціным. Аглядальнікі адразу звярнулі ўвагу, што гэтая падзея аніяк не анансавалася ні беларускім, ні крамлёўскім бокам. Пазней стала вядома, што падчас візіту Лукашэнка дамовіўся з Пуціным аб новым крэдыце і цане на газ на 2022 год, якая захаваецца на ўзроўні бягучага года.

КДБ пабачыў «відавочныя прыкметы тэрарызму» ў спробе падпалу дома дэпутата Палаты прадстаўнікоў, кіраўніка ЛДП Алега Гайдукевіча. Распачатая крымінальная справа, праводзяцца неадкладныя следчыя дзеянні, а таксама аператыўна-вышуковыя мерапрыемствы. Гайдукевіч напісаў у Facebook, што ўначы з 10 на 11 ліпеня невядомы зламыснік кінуў у яго дом тры кактэйлі Молатава, але спрацаваў толькі адзін з іх. У выніку пацярпела котка, якая атрымала апёкі носу.

У Брэсце 13 ліпеня адбылося некалькі ператрусаў у межах крымінальнай справы паводле ч. 2 арт. 289 КК — акт тэрарызму). Прыйшлі да Шчурко — цікавіліся «АГСБ», Цяліпкі. Пасля ператрусу на допыт у якасці сведкі вазілі Рамана Берасценя, яго вызвалілі. Раніцай таксама затрымалі Анастасію Мантраву. Раней ператрусы прайшлі ў выдаўца брэсцкага часопіса «Бинокль» Дар'і Гарашчанка і фатографкі Вольгі Латышавай. Да рэдактаркі «Бинокля» Ксеніі Пятровіч таксама прыходзілі з ператрусам. Дома была толькі маці, якая не адчыніла дзверы.

Таксама раніцай да бухгалтара гомельскага выдання «Моцныя навіны» Ганны Стрэльчанка з ператрусам прыйшлі супрацоўнікі крымінальнага вышуку.

14 ліпеня маштабная зачыстка грамадзянскай супольнасці разгарнулася з новым імпэтам. На час падрыхтоўкі гэтага нумара НЧ было вядома пра ператрусы ў больш як 15 грамадскіх арганізацыях краіны. Раніцай сілавікі прыйшлі да праваабаронцаў «Вясны» Уладзіміра Лабковіча і Валянціна Стэфановіча. Вядома, што да апошняга прыходзілі прадстаўнікі ДФР з пастановай на ператрус па арт. 342 (арганізацыя дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак) і 243 (ухіленне ад выплаты падаткаў). Стэфановіча затрымалі. Таксама ператрус прайшоў у праваабаронцаў Андрэя Палуды, Сяргея Сыса (яго затрымалі), Віктара Сазонава (Гродна), Алены Лапцёнак, знікла сувязь з кіраўніком «Вясны» Алесем Бяляцкім. Затрыманая праваабаронца Яўгенія Бабаева. Таксама сілавікі выламалі дзверы ў офісы БАЖ, Беларускага Хельсінскага камітэту, Партыі БНФ, прыйшлі ў Рух «За Свабоду». Ператрусы адбыліся ў кіраўніцы праваабарончай арганізацыі Lawtrend Вольгі Смалянка, у прадстаўнікоў Human Constanta, у выданні «ИМЕНА», офісе Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», «Таварыства беларускай школы», цэнтра «Супольнасць», праваабарончай арганізацыі «Гендарныя перспектывы», «Саюза беларускіх пісьменнікаў», цэнтра эканамічных даследаванняў BEROC, эканаміста Яраслава Раманчука, кіраўніка Свабоднага прафсаюза Мікалая Шараха ў Полацку. У Барысаве затрыманы юрыст Алег Мацкевіч. Ператрус прайшоў у Офісе еўрапейскай экспертызы і камунікацый, у гродзенскай грамадскай арганізацыі «Трэці сектар», у сяброў грамадскага аб'яднання «Фонд імя Льва Сапегі». Правялі ператрус і затрымалі праваабаронцу Марыну Статкевіч.

Журналістка Кацярына Барысевіч стала лаўрэатам міжнароднай прэміі «За свабоду прэсы 2021». Як паведамляецца на афіцыйным сайце прэміі, прысуджэнне Барысевіч гэтай узнагароды дазваляе прыцягнуць увагу да цяжкага становішча журналістаў у Беларусі.

Палітвязню Мікіту Залатарову дадалі 1,5 года зняволення да папярэдніх пяці. Яго абвінавацілі ў нападзе на супрацоўніка СІЗА, а таксама ў пагрозах іншай супрацоўніцы і яе сваякам. 17-гадовы хлопец на судзе заявіў, што яго працягваюць біць у СІЗА.

Адваката Антона Гашынскага пазбавілі ліцэнзіі. Ён працаваў у адвакатуры з 2004 года, кіруючы партнёр адвакацкага бюро «Маслаў, Гашынскі і партнёры». Абараняў палітолага Віталя Шклярава, журналіста Андрэя Аляксандрава, айцішнікаў з «ПандаДок», блогера Уладзіміра Няронскага, Сафію Сапега, выкладчыцу Вольгу Філатчанкаву.

Стала вядома, што экспертку і выкладчыцу ЕГУ Таццяну Кузіну вінавацяць паводле арт. 357 і 361 КК — змове з мэтай захопу ўлады і закліку да нанясення шкоды нацыянальнай бяспецы. Максімальнае пакаранне пры такіх абвінавачаннях — да 12 гадоў зняволення.

## Шаноўныя чытачы!

Вы можаце атрымліваць «Новы Час» у свае паштовыя скрыні. З любога месяца і любога нумару.

Першае і галоўнае, што трэба зрабіць для гэтага, — любым зручным для вас спосабам **ПАВЕДАМІЦЬ НАМ АДРАС ДАСТАЎКІ ГАЗЕТЫ.**

Гэта можна зрабіць:

- па рэдакцыйных тэлефонах: +375 17 347 52 81; +375 29 625 57 51;
- на рэдакцыйную электронную пошту novychas@gmail.com
- праз сацыяльныя сеткі і месенджары;
- ці нават звычайным лістом на адрас: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1-1234.

Як толькі мы атрымаем ад вас адрас дастаўкі, мы адразу ж пачнём дасылаць вам свежыя нумары газеты.

І ўжо пасля, па магчымасці, аплаціць кошт падпіскі (5 рублёў за месяц). Зрабіць гэта вы можаце, пералічыўшы грошы на наш рахунак: Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў» № BY48BLBB30120190790926001001 Дырэкцыя ААА «Белінвестбанк» па Мінску і Мінскай вобл., BLBBBY2X, УНП 190790926.

Грошы можна пералічыць у любым банку ці на пошце, а таксама праз сістэму АРЫП ( у графе "№рахунку" пастаўце лічбу 1).

Улічвайце, калі ласка, што банк бярэ камісію 2 руб. Калі ў вас цяпер няма фінансавай магчымасці аплаціць падпіску, проста паведаміце пра гэта. Мы ў любым выпадку будзем адпраўляць вам газету.

Дасылаць копіі аплаты ў рэдакцыю **НЕ ТРЭБА**. Галоўнае: **ПАВЕДАМІЦЕ АДРАС ДАСТАЎКІ**.

Таксама вы проста можаце падтрымаць рэдакцыю ахвяраваннямі праз адмысловую форму на нашым сайце **novychas.by**.

Дзякуй вам за вашу падтрымку!

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Дапамажыце, тонем!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У савецкія часы была папулярная фраза: «Калі ты плюнеш у калектыў — калектыў утрэцца. Калі калектыў плюне ў цябе — ты патонеш».**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Кіраўнік МЗС Уладзімір Макей у інтэрв'ю RT заявіў: «Мы зацікаўленыя ў тым, каб любыя канфлікты вырашаліся шляхам спакойнага, нармальнага, як цяпер модна казаць, інклюзіўнага дыялогу. Гэта тычыцца і ўнутрыпалітычнай сітуацыі, гэта тычыцца і нашай гатоўнасці да дыялогу на знешнім контуры. Мы і цяпер гатовыя садзіцца за стол перамоваў з любымі нашымі партнёрамі, якія выкажуць жаданне на гэты конт, але, на жаль, пакуль мы не чуем ніводнага здаровага голасу ў хоры калектыўнага Захаду». Пры гэтым ён дадаў, што Беларусь ніколі не была і не збіраецца быць крыніцай напружанасці, што Мінск гатовы «абмяркоўваць канкрэтныя напрамкі ўзаемадзеяння, калі з боку партнёраў будзе шчырая адкрытасць да такога роду дыялогу», і звярнуў увагу на тое, што на гэтым фоне для Мінска застаецца «самым галоўным эканоміка».

Заява даволі дзіўная, якая якраз і ўказвае на тое самае ўсведамленне патопу. Найперш, калі спадар Макей «не чуе ніводнага здаровага голасу», то, можа быць, прачытае, што да таго самага «інклюзіўнага дыялогу» ад жніўня 2020-га яго заклікаюць усе — не толькі «ворагі» з ЕС і ЗША, але і ААН, і АБСЕ. Але дыялог павінен пачацца спакойна і нармальна, без закладнікаў у беларускіх турмах, якімі з'яўляюцца цяпер палітвязні, і без магчымасці браць новых закладнікаў.

Нагадаю тры простыя патрабаванні, якія былі агучаныя амаль год таму. Гэта вызваленне палітвязняў, спыненне рэпрэсій і пачатак дыялогу пры пасярэдніцтве АБСЕ.

Чаму Макей раптам, хоць праз і непапулярную на Захадзе Russia Today, пачаў казаць пра гатоўнасць да дыялогу? Па-першае, відавочна таму, што прыпякае. Таму што ўсе абразы і «нашы адказы на санкцыі» зрабілі горш толькі нам. Таму што розныя «вербальныя інтэрвенцыі» і міграцыі на літоўскай мяжы прывялі да таго, што той самы «калектыўны Захад» задумаўся нанонт узмацнення сектаральных санкцый. І таму, што «наш адказ Чэмберлену» прывёў не да таго, што Захад «запрасіў пераміра'я», а да таго, што ён стаў больш кансалідаваным і больш моцным.

На гэтым тыдні Літва пачала будаваць плот з калючага дроту на мяжы з Беларуссю — і той самы наплыў нелегалаў заўважна знізіўся — ужо менш за 100 чалавек на суткі. Беларуска-літоўскую мяжу патрулююць не толькі літоўскія памежнікі і вайскоўцы: ім дапамагаюць эстонскія паліцэйскія і памежнікі, сілы Еўрапейскага агенцтва памежнай і берагавой аховы FRONTEX, Службы грамадскай бяспекі, Саюза стралкоў і іншых устаноў.

Міністр замежных спраў Літвы Габрыэлюс Ландсбергіс заявіў, што выкарыстанне міграцыі ў якасці зброі супраць краін ЕС нават больш цынічнае, чым угон самалёта Ryanair. «Рэжымы, якія выкарыстоўваюць мігрантаў у якасці зброі гібрыднага нападу, павінны атрымаць балючы агульны адказ з боку ЕС», — адзначыў ён і падняў пытанне ў Брусэлі адносна ўзмацнення санкцый супраць уладаў РБ.

Што можа зрабіць Беларусь? Можна, канешне, перакрыць транзіт з ЕС у Расію і Кітай, пра што казаў Лукашэнка, але як на гэта паглядзяць Расія і Кітай? Таму ў адказ на гэтыя словы прэм'ер Галоўчанка імгненна «здаў назад», заявіўшы, што мы не будзем перакрываць транзіт, а «будзем глядзець на паводзіны нашых еўрапейскіх партнёраў». Яшчэ Лукашэнка абмовіўся пра тое, што РБ перакрывала кантрабанду ў ЕС «радыеактыўных матэрыялаў», як бы намякаючы і на БелАЭС. Аднак такія праблемы Маскве і «Расатаму», якія па факце АЭС у нас і пабудавалі, таксама не патрэбныя.

І, канешне ж, зварот Макея праз RT паказвае вельмі абмежаваную магчымасць яго ведамства. Амбасадараў павысылалі, літоўскае пасольства фактычна ліквідавалі, кіраўніка дыпмісіі ЕС выслалі... Цяпер проста няма з кім дамаўляцца кулуарна пра той самы дыялог. Вось і даводзіцца «закідваць вуду» праз не самае папулярнае на Захадзе СМІ. Таму што «Савецкую Беларусь» там не чытаюць і БТ не глядзяць. RT аказалася хіба што адзінай крыніцай, праз якую можна паслаць сігнал пра дыялог.

Але самае галоўнае — гэта тое, як змянілася рыторыка айчынных чыноўнікаў. Яшчэ ўчора ЗША і Захад былі «тэрарыстамі і забойцамі», якія рыхтавалі замах непасрэдна на Лукашэнку. Яшчэ тыдзень таму нас палохалі «спячымі атрадамі» баевікоў, якімі кіравала ці не непасрэдна Ангела Меркель, да якой і былі высунутыя прэтэнзіі. Аднак цяпер што Галоўчанка, што Макей загаварылі пра «нашых партнёраў».

Напэўна, нехта там ва ўрадзе паглядзеў у будучыню — і жахнуўся. Бо будучыня тая — незайздросная, і Расія тут не дапаможа, а, хутчэй, наадварот. Па-першае, Расія ўводзіць у дзеянне «Паўночны паток–2», і з IV квартала (ужо хутка) «Газпрам» збіраецца на 80% скараціць транспарціроўку газу ў Еўропу праз тэрыторыю Беларусі. Па-другое, ходзяць чуткі, што на фоне санкцый адносна «Беларуськалію» расійскі «Уралкалій» збіраецца прысабечыць беларускую долю на рынку ўгнаенняў.

Нічога асабістага — проста бізнес. Масква плаціць саюзніку той жа манетай: раней Сінявокая нажывалася на кантрабандзе харчоў у Расію на фоне іх «контрсанкцый» за акупацыю Крыму. Цяпер Расія карыстаецца незайздросным становішчам партнёра, б'ючы па самым дарагім — па гаманцы. І ўсё гэта на фоне словаў пра «братэрскую падтрымку».

Кіраўніцтва Сінявокай аказалася заціснутае паміж жорнамі Расіі і Захаду. Прычым, калі з Захадам яшчэ можна дамаўляцца, то ў Расіі яны відавочна непатрэбныя — там сваіх такіх хапае. І гэтая перспектыва будучыні кагосьці, верагодна, напужала — дастаткова для таго, каб урэшце агучыць заклік да перамоваў.

Ёсць толькі адна праблема: словам Макея ўжо няма веры. А таму «безумоўных перамоваў» не будзе. Спачатку грошы — увечары крэслы. Спачатку спыненне тэрору і вызваленне палітвязняў — потым размова.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Аляксандр Івулін



**Гульцу ФК «Крумкачы», журналісту «Трыбуны», аўтару канала «ЧестнОК» Аляксандру Івуліну прад'яўленае абвінавачанне па частцы першай 342-га артыкула КК РБ.**

Па гэтым артыкуле Аляксандру пагражае да чатырох гадоў пазбаўлення волі.

Нагадаем, 3 чэрвеня невядомыя ў цывільным прыйшлі ў кватэру да журналіста і футбаліста Аляксандра Івуліна зператрусам, а потым адвезлі ў невядомым кірунку. 4 чэрвеня яго справу разгледзела ў судзе Фрунзенскага раёна суддзя Юлія Блізнюк. На журналіста ў Фрунзенскім РУУСе склалі пратакол паводле ч. 3 арт. 24.23 КаАП — нібыта за сцяг на акне кватэры. Аляксандр адмаўляе сваю віну. Івулін заявіў, што пры ператрусе сцяга на акне не было, таму ён заявіў хадайніцтва аб апытанні сведак, якія могуць пацвердзіць, што гэта праўда. Паводле яго меркавання, затрымлівалі яго супрацоўнікі ГУБАЗіКа.

Таксама на судзе оперупаўнаважаны па асабліва важных справах падпалкоўнік міліцыі Дзёмін Максім Леанідавіч заявіў: «Хачу дадаць, што грамадзянін Івулін у жніўні-верасні 2020 актыўна браў удзел у пратэставай дзейнасці і на сваім Youtube-канале размяшчаў розныя відэаролікі з апазіцыйна настроенымі грамадзянамі і спартсменамі».

Суддзя Блізнюк арыштавала Івуліна на 30 сутак. 2 ліпеня, за суткі да заканчэння 30-сутачнага тэрміну, журналіст Аляксандр Івулін стаў падазраваным па крымінальнай справе. Яго перавялі ў СІЗА-1.

## Дзмітрый Лаеўскі



**З калегіі адвакатаў выключылі Дзмітрыя Лаеўскага, які абараняў Віктара Бабарыку.**

Пра гэта ў сацсетках паведаміў сам адвакат. «Дысцыплінарная камісія МГКА прыняла рашэнне выключыць мяне з калегіі адвакатаў. За просьбу аб апраўданні людзей», — напісаў Дзмітрый Лаеўскі.

Дысцыплінарную вытворчасць у дачыненні да Дзмітрыя Лаеўскага савет Мінскай гарадской калегіі адвакатаў распачаў увечары 2 ліпеня. «У судовых спрэчках у абарону Віктара Бабарыкі я абгрунтаваў адсутнасць прыкмет злачынства ("Атрыманне хабару") у дзеяннях іншых абвінавачаных, выказаў нязгоду з іх пазіцыяй і заявіў аб неабходнасці іх апраўдання, — напісаў тады Дзмітрый Лаеўскі. — Пра гэта ж гаварыў у сваіх паказаннях мой падабаронны, чыю пазіцыю я як абаронца падтрымліваў і адстойваў. Рабіў гэта добрасумленна і прынцыпова».

Адвакат растлумачыў: «Аспрэчваць пазіцыю іншых удзельнікаў працэсу, асабліва калі яна выкарыстоўваецца для абвінавачання майго падабароннага, ні закон, ні правілы прафэтыкі не забараняюць. Ставіць пытанне аб апраўданні тых, чыя згода з абвінавачаннем выкарыстоўваецца для пераследу майго падабароннага, ні закон, ні правілы прафэтыкі не забараняюць».

## Марыя Вайтовіч



**Паводле папярэдняга падазрэння ў «акце тэрарызму» затрымалі грамадскую актывістку з Бараўлянаў.**

«Яны заўважыў амапаўцаў ля дома, забрахаў сабака — тыя пачалі скакаць праз плот, нехта ужо падбег да дзвярэй, — расказвае яе муж Іван Вайтовіч. — Мяне паклалі на зямлю тварам уніз, але з Машуляй, напэўна, паводзілі сябе карэктна, размаўлялі ветліва. Дома правялі вобшук. Згарнулі ў мяхі тое, што знайшлі з БЧБ, а яно ў нас было заўсёды, бо мы любім сваю краіну і народ — у нас нават плітка на кухні ў нацыянальным стылі».

Супрацоўнікі, якія прыйшлі да Вайтовічаў, назваліся прадстаўнікамі КДБ. Сказалі, што адвязуць Марыю на размову. Але на наступны дзень Івану патэлефанавалі і паведамілі, што яго жонка — падазраваная паводле 289 артыкула Крымінальнага кодэкса («Тэрарызм»).

Марыя Вайтовіч удзельнічала ў мясцовым грамадскім жыцці (суботнікі, дзіцячыя пляцоўкі і іншыя ініцыятывы). Яна гадуе трох непаўналетніх прыёмных дзяцей. Цікава, што месяц таму яна была на сустрэчы са старшынёй Савета Рэспублікі Наталляй Качанавай. Тады Качанава казала, што трэба было б больш такіх неабыякавых грамадзян, як Марыя Вайтовіч. А цяпер яе падазраюць у «сувязі з тэрарыстычнай ячэйкай».

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Лапаць як прыклад традыцыйнай каштоўнасці

**У змаганні Дабра са Злом перамога застанецца за Дабром. Чакаць засталося нядоўга, патрывайце.**

У нашых паўднёвых суседзяў растае суверэнітэт — і ад гэтага пакутуюць людзі. Гэту думку я не высмактаў з пальца. Не мой узровень.

Чаму, аднак, у нашых паўднёвых суседзяў растае суверэнітэт? Адказ на гэта экзістэнцыйнае — гэта значыць, вельмі важнае для існавання чалавецтва — пытанне, я ў два клікі знайшоў у сваёй кампутарнай бібліятэцы: «…усходнеславянскім народам застаюцца два шляхі: ці яны кансалідуюцца, аб'ядноўваюцца і ствараюць свой уласны цэнтр развіцця і сілы, ці яны ператвараюцца ў "этнаграфічны матэрыял", глебу і ўгнаенне для развіцця іншых цывілізацыйных цэнтраў».

Няма нічога дзіўнага ў тым, што такое глыбокае адкрыццё я здабыў з артыкула, надрукаванага ў часопісе «Беларуская думка». Дзе яшчэ друкавацца доктару філасофскіх навук, прафесару, аўтару больш за 270 навуковых прац, у тым ліку цэлага шэрагу манаграфій, падручнікаў і навучальных дапаможнікаў Чэславу Кірвелю?

У прыведзенай цытаце рэкамендую звярнуць увагу на злучнік «ці». Без яго не абыходзіцца ні адно публічнае выказванне сучасных маніхеяў. Тут напрошваецца тлумачэнне, і нягледзячы на тое, што ў «Азбуках паліталогіі» сутнасць маніхейства раскрывалася неаднаразова, будуць вымушаны звярнуцца да самацытавання: «маніхейства — вучэнне, заснаванае ў III стагоддзі рэлігійным філосафам Мані. Схільныя да маніхейства грамадзяне разглядаюць свет як арэну, на якой у апошняй бітве сышліся Дабро і Зло, Святло і Цемра».

Тыповы маніхей адрознівае толькі два колеры: чорны і белы. Ніякіх паўтонаў для яго не існуе. Адсюль дзяленне супляменнікаў на «сваіх» і ворагаў. Ёсць логіка культуры, у якой маніхейства — адна з базавых характарыстык. Той, хто заклікае да вяртання да традыцыйных каштоўнасцяў, павінен памятаць пра гэта.

### Праблема «лішніх»

Спецыялістаў па традыцыйных каштоўнасцях у нас лічыць — не пералічыць. Аднак гэта не перашкаджае і заезджым гастралёрам паспяхова ўплятаць сваё лыка ў рагожу айчыннай прапаганды. Свежы прыклад — сакратар Савета бяспекі Расіі Мікалай Патрушаў, які наведаў Беларусь з афіцыйным візітам у канцы чэрвеня. Яму і слова: «Мы — прыхільнікі традыцыйных каштоўнасцяў, і іх трэба адстойваць. Таму кансультацыі вельмі карысныя, прайшлі выключна плённа. Нашы апараты (Саветаў бяспекі РБ і РФ. — С. Н.) працягнуць супрацоўніцтва».




Апараты Саветаў бяспекі — як кладоўкі для захоўвання традыцыйных каштоўнасцяў! Калі так пойдзе і далей, то дажывем да артыкула ў Канстытуцыі, які абавязвае грамадзян сёрбаць капусту выключна лапцем. А што, чым лапаць — не традыцыйная каштоўнасць?

На двары XXI стагоддзе, на двары пяты тэхналагічны ўклад. Што там яшчэ на двары? На беларускім… — поўна носьбітаў традыцыйных каштоўнасцяў, а на расійскім — у працэнтных суадносінах іх яшчэ больш.

**Апараты Саветаў бяспекі — кладоўкі для захоўвання традыцыйных каштоўнасцяў! Калі так пойдзе і далей, то дажывем да артыкула ў Канстытуцыі, які абавязвае грамадзян сёрбаць капусту лапцем. А чым лапаць — не традыцыйная каштоўнасць?**

У Еўропе пераход ад традыцыйных каштоўнасцяў да каштоўнасцяў мадэрну пачаўся ў XVIII стагоддзі ў выніку прамысловай рэвалюцыі. Адзін з вынікаў гэтага пераходу — павелічэнне сярэдняй працягласці жыцця з 30 да 80 гадоў. Каму такое бязладдзе можа спадабацца, калі ўлічыць, што на змену феадалізму (аграрнаму грамадству) прыйшоў капіталізм (індустрыяльнае грамадства) з яго нястрымнай прагай нажывы і палавой распуснасцю?

У Расіі гэты пераход пачаўся яшчэ пры цару-бацюхну і завяршыўся пры дарагім Леанідзе Ільічы (у БССР гарадское насельніцтва перавысіла сельскае ў 1975 годзе), але ён не суправаджаўся адэкватнымі зменамі ў грамадстве. Чалавек савецкі, нягледзячы на свой высокі ўзровень адукацыі, ад традыцыйных каштоўнасцяў так да канца і не пазбавіўся, чым, зрэшты, і ганарыўся.

Балючая праблема любога сістэмнага пераходу — гэта праблема «лішніх». Прыгадаем словы Астапа Бэндэра з «Дванаццаці крэслаў»: «Кіса, мы чужыя на гэтым свяце жыцця!»

Цытату з несмяротнага рамана растлумачу цытатай, запазычанай у расійскага блогера Анатоля Несміяна: «Справа ў тым, што ўзнікае не проста новы ўклад, а наогул новае асяроддзе. Упаў метэарыт — змяніўся клімат — дамінуючыя віды выміраюць проста таму, што яны адаптаваныя і паспяховыя толькі ў тым клімаце, які быў да падзення метэарыта…

У сацыяльных катастроф — тыя ж заканамернасці. Пасля пераходу — што «ўверх» (у выпадку поспеху), што «ўніз» (у выпадку няўдачы) вялікая частка цяперашняга соцыуму вырачаная на паразу. Не толькі ў фізічным сэнсе, але і ў ментальным. Усе тыя нормы, якія дзейнічалі ў ім, у новай рэальнасці акажуцца непатрэбнымі. А магчыма, нават шкоднымі. Таму яны застануцца ў выглядзе паданняў, легенд, міфаў, але іх не возьмуць з сабой у новую нармальнасць».

### Меркаванне віцэ-прэм'ера

Супярэчнасць дзвюх сістэм пасля развалу СССР засталася ў мінулым. На змену прыйшла супярэчнасць паміж культурамі, якія генеруюць інавацыі, і культурамі, асуджанымі на запазычанне чужых дасягненняў. Дый з запазычаннем узнікаюць праблемы. Адна справа — пазычаць тэхналогіі, а зусім іншая — гатовыя вырабы.

Перачытайце цытату аўтара 270 навуковых прац. Пра якія ўласныя цэнтры развіцця і сілы ўсходнеславянскіх народаў ён вядзе гаворку? Пяты тэхналагічны ўклад — гэта перш за ўсё мікраэлектроніка. Але «сёння неразумна казаць, што ў Расіі існуе серыйная мікраэлектронная вытворчасць, мы нават адсутнічаем у сусветнай статыстыцы».

Гэта меркаванне Юрыя Барысава, віцэ-прэм'ера Расіі, адказнага за ВПК, якое ён выказаў у снежні 2019 года на канферэнцыі «Электроніка ў Расіі: будучыня галіны».

Трэба прызнаць, што наверсе праблема аматарамі традыцыйных каштоўнасцяў усведамляецца. Я пачаў «Азбуку паліталогіі» са згадкі пра міжнародны форум. Канкрэтызую: меўся на ўвазе VIII Форум рэгіёнаў Беларусі і Расіі. Цытую адзінага палітыка (АП): «Мы, на жаль, пасля распаду СССР трошкі мелі на ўвазе нашы прадпрыемствы, якія займаліся інтэгральнымі схемамі. Але мы дамовіліся, што ў нас нядрэнны зачын, і мы рэанімуем гэтыя прадпрыемствы. Яны будуць працаваць у бліжэйшыя гады на самым высокім узроўні. Як сказаў прэзідэнт (Пуцін. — С. Н.), немагчымыя без гэтых прадпрыемстваў ніякія высокатэхналагічныя прадукты: ні ў космасе, ні ў абароне, ні ў іншых галінах».

### Яшчэ гадоў 5–10 утрымацца

Добрымі намерамі выбрукавана дарога ў пекла. Хто сёння памятае пра намер вырабляць беларускія мабільныя тэлефоны? А як наконт вытворчасці верталётаў? Дзе працякае тая Лета, у якую ўсё гэта адышло?

Не памятаю, у якім з даўніх гадоў у Міністэрстве гандлю СССР паўстала ідэя арганізаваць вытворчасць кухоннай мэблі. Па ўзоры далёка ехаць не давялося. У ГДР масавы выраб такой мэблі быў наладжаны. «Ідэя не проста ўзнікла, — піша эканаміст Алег Грыгор'еў у кнізе «Эпоха росту», — але і знайшліся энтузіясты, якія здолелі ўгаварыць начальства, і праекту быў дадзены ход. Дык вось, першы савецкі кухонны гарнітур з'явіўся… праз 10 гадоў».

Затрымка адбылася не з-за бюракратаў. «Давялося ствараць дзве новыя падгаліны, — г.зн. вылучыць інвестыцыі, пабудаваць заводы, вырабіць, закупіць і наладзіць абсталяванне…» І яшчэ шмат чаго давялося рабіць упершыню…

Ёсць такое паняцце — прадметна-тэхналагічная мноства (ПТМ). Не палохайцеся, а ўявіце, што групу распрацоўшчыкаў айфонаў з дапамогай машыны часу перанеслі ў Афіны часоў Перыкла (495–429 г.да н. э.). І што нашы разумнікі здолелі б там стварыць?

У кожнай эпохі — сваё ПТМ, і тое, без чаго немагчыма было пабудаваць Акропаль, бескарысна для вытворчасці электронных вытворчасцяў.

Колькі ні мадэрнізуй такарныя станкі, вывезеныя з Германіі ў 1945 годзе, у вытворчасці інтэгральных схем карысці ад іх няшмат. Але абсталяванне для электроннай прамысловасці ўсходнеславянскія народы не вырабляюць, а «поўныя мярзотнікі» на Захадзе самі яго не прадаюць і іншым не дазваляюць.

Што застаецца рабіць тым, хто аказаўся чужым на свяце пятага тэхналагічнага ўкладу? Апеляваць да традыцыйных каштоўнасцяў — і адначасова спрабаваць выдаць свае правалы за поспехі. Глядзіш, яшчэ гадоў 5–10 гэта дазволіць ім утрымацца ля бюджэтнай кармушкі.

# Ці чакае краіну новая «Перабудова»?

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Апошнім часам здаецца, што беларуская эканоміка жыве па інерцыі. Быццам бы прадпрыемствы працуюць. Быццам бы заробак плаціцца. Увогуле, звонку выглядае ўсё добра. Аднак статыстычныя даныя, якія публікуюцца ў адкрытым доступе, радуюць мала.**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

## Не ўсё так добра

Па-першае, грошай у беларускіх прадпрыемстваў становіцца ўсё менш. На 1 траўня 2021 года чыстая запазычанасць прадпрыемстваў-флагманаў склала 110,2 млрд рублёў. Гэта максімальная сума доўгу буйных і сярэдніх прадпрыемстваў за ўсю гісторыю вымярэнняў па прынятай у краіне методыцы. Дастаткова толькі сказаць, што вышэйзгаданыя 110,2 млрд рублёў — гэта амаль увесь ВУП Беларусі: за 2020 год ён склаў 147 млрд рублёў.

Хуткі рост запазычанасці тлумачыцца дэвальвацыяй беларускага рубля. Частка абавязацельстваў прадпрыемстваў намінаваная ў замежных валютах — і абясцэньванне «зайчыка» павялічвае памер абавязацельстваў у рублёвым эквіваленце. Пры гэтым на прамысловых прадпрыемствах — «красу і гонар беларускага эканамічнага цуду», — прыпадае больш за палову чыстага доўгу. Сума абавязацельстваў прамысловцаў склала 68,1 млрд BYN. Гэта таксама максімальнае значэнне за перыяд замераў.

З пачатку 2021 года аб'ём запазычанасці ў прамысловасці павялічыўся на 31,3%. Для параўнання: за ўвесь 2020 год сума абавязацельстваў падскочыла «толькі» на 17,3%.

У той жа час прадукцыя, якую вырабляюць гэтыя прадпрыемствы, не карыстаецца асаблівым попытам — гэта значыць, не прадаецца. На 1 чэрвеня складскія запасы ў прамысловасці былі 59,6% ад сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці. Груба кажучы, калі на тры тыдні закрыць усе заводы і фабрыкі — яны могуць жыць выключна прадаючы назапашаную прадукцыю.

Дзіўна, але лідарамі па запасах сталі прадпрыемствы Мінска і Мінскай вобласці. Усю Мінскую вобласць, уключна са сталіцай, можна спакойна адпраўляць у адпачынак на месяц — складскія запасы дасягнулі 1,502 млрд BYN, што эквівалентна 93% месячнага выпуску. На прадпрыемствах Жодзіна (чытай — БелАЗ) запасы склалі 362,8 млн BYN, Мінскага раёна — 235,5 млн BYN.

У Мінску ўзровень складскіх запасаў — 1,193 млрд BYN, або 86,5% месячнага выпуску. Самыя буйныя запасы — на складах у машынабудаванні (207,1 млн BYN), у харчпраме (175,5 млн BYN), а таксама ў вытворчасці транспартных сродкаў і абсталявання (173,1 млн BYN). Атрымліваецца, што як належна не працуюць, у першую чаргу, МАЗ, МТЗ, МЗКЦ.

Стагнацыю прамысловай вытворчасці пацвярджаюць і вынікі знешняга таварнага гандлю за пяць месяцаў 2021 года. Імпарт перавышае экспарт. За студзень-травень 2021 года адставанне экспартных паставак ад імпартных дасягнула 1,040 млрд USD. Па выніках пяці месяцаў імпартныя пастаўкі былі пакрыты экспартнымі толькі на 93,3%. То-бок, на кожныя $100 імпарту ў Беларусь прыпадала крыху больш за $93 экспарту з Беларусі.

За пяць месяцаў мы патрацілі на мільярд долараў больш, чым зарабілі. Для кампенсацыі такой «працы» давядзецца альбо зацягваць паясы ўнутры краіны, альбо залазіць у новыя даўгі, альбо абвяшчаць дэфолт па знешніх абавязацельствах.

Тым не менш, прадпрыемствы працягваюць утрымліваць рабочых, якія ходзяць на працу і атрымліваюць «заробак». Відавочна, што гэты заробак выплачваецца не за кошт продажу ўласнай прадукцыі, а за кошт крэдытаў, якія прадпрыемствы бяруць у банках. Заробак, такім чынам, ператвараецца ў нейкае падабенства «сацыяльнай падтрымкі», што ніяк не звязанае з колькасцю і якасцю вырабленай і прададзенай прадукцыі.

Прыкладна так было ў часы брэжнеўскага застою. Толькі тады крыніцай валютных паступленняў для СССР была «прыродная рэнта» — нафта і газ, якія прадаваліся за мяжу па добрых цэнах. За кошт здабычы карысных выкапняў СССР падтрымліваў вытворчасць і ўзровень жыцця. Цяпер ролю нафты і газу, якіх у Беларусі няма, для прамысловасці граюць банкаўскія крэдыты.

Пытанне толькі ў тым, як доўга банкі змогуць фінансаваць гэтыя «зарплатныя праекты».

## Заціснутыя ў інфляцыі

У банкаў на самай справе становішча таксама не вельмі добрае: варта толькі ўспомніць апошнія дзве знакавыя навіны, якія тычацца банкаўскай дзейнасці. Першая: Нацыянальны банк адмяніў уласную рэкамендацыю пра абмежаванне ставак па валютных укладах. Асноўная маса валютных укладаў у Беларусі намінаваная ў доларах, стаўкі па такіх укладах у мінулыя месяцы не перавышалі 2,3% гадавых.

Паводле даных Myfin.by, камерцыйныя банкі млява адрэагавалі на такі, падавалася б, шчодры дазвол. Стаўкі па валютных укладах у большасці банкаўскіх устаноў пасля адмены абмежаванняў выраслі ў сярэднім усяго на 1%: цяпер банкі прапануюць валютныя ўклады з разліку 3,4–3,5% гадавых.

Здавалася б, для прыцягнення валюты ад насельніцтва можна было б значна павысіць працэнт па ўкладах, але банкі рызыкаваць не спяшаюцца. Такая асцярожнасць звязаная з другой навіной: з 9 ліпеня набыў моц указ Лукашэнкі, які дазваляе ўводзіць у краіне драконаўскія абмежаванні на валютныя аперацыі. У выпадку «пагрозы эканамічнай бяспецы» Нацбанк атрымлівае права ўводзіць поўную забарону на куплю замежнай валюты, усталёўваць гранічныя аб'ёмы, колькасць і тэрміны валютна-абменных аперацый, патрабаваць атрымання дазволу на правядзенне такіх здзелак. Акрамя гэтага, беларускі ЦБ зможа дэ-факта канфіскаваць замежную валюту з рахункаў юрыдычных асоб, прымусова канвертуючы яе ў беларускія рублі.

«Пагрозамі эканамічнай бяспецы», якія могуць стаць падставай для ўвядзення жорсткіх мер, названыя, у прыватнасці, зніжэнне золатавалютных рэзерваў краіны ніжэй за дапушчальны ўзровень або рэзкія ваганні курсу беларускага рубля. Не дзіўна, што расійскія СМІ адрэагавалі на гэтую падзею загалоўкамі: «У Беларусі ўступіў у сілу ўказ аб канфіскацыі валюты».

Таму банкі не рашаюцца на ўсю моц карыстацца дазволам Нацбанка і рэзка павышаць працэнт па валютных дэпазітах. Сапраўды: людзі прынясуць у банк валюту, а яе потым канфіскуе Нацбанк — і як потым глядзець у вочы ўкладчыкам? Тлумачыць, што «невінаватая я, гэта Нацбанк прыйшоў»? Укладчыкаў, будзем шчырыя, такія нюансы мала цікавяць. Іх цікавіць тое, што яны аддалі валюту банку — і не змаглі яе забраць.

Прычым, насельніцтва відавочна адчувае гэты трывожны момант. За травень з банкаў забралі амаль $200 млн, а за чэрвень — $270 млн укладаў, не кажучы ўжо пра тое, што насельніцтва з'яўляецца чыстым пакупніком валюты 19 месяцаў запар. За чэрвень 2021 года нета-купля валюты фізічнымі асобамі склала $31 млн. А ў безнаяўным сегменце чыстая купля дасягнула $134,8 млн.

Зарабіць жа банкам становіцца практычна немагчыма. Як правіла, «доўгія» крэдыты насельніцтву прывязаныя да стаўкі рэфінансавання, якая складае ў дадзены момант 8,5%. Напрыклад, ільготны крэдыт на будаўніцтва жылля мае на ўвазе правіла «стаўка рэфінансавання Нацбанка +3%». Таму цяпер такія крэдыты можна атрымаць пад 11,5% гадавых. Аднак гадавая інфляцыя ў краіне разагналася да 9,9%, у выніку маржа банка на сённяшні момант складае ўсяго 1,5%. А пры далейшым разгоне інфляцыі да канца года ад прыбытку банкаў не застанецца практычна нічога — і гэта аптымістычны сцэнар. У песімістычным сцэнары банкі сыдуць у мінус.

Банкі спрабуюць зарабіць на спажывецкіх крэдытах: стаўкі па іх цяпер завоблачныя, 30% гадавых (29,9%, калі быць дакладным). Але насельніцтва ў нас ужо дасведчанае, і пад такі працэнт крэдыты браць не хоча.

Як прыклад — два асноўныя дзяржбанкі краіны адсправаздачыліся наконт сваёй дзейнасці за паўгода. Актывы Беларусбанка на 1 ліпеня 2021-га выраслі з 36,8 да 37,5 млрд BYN (паказчыкі, нібыта, нядрэнныя). Аднак рост актываў Беларусбанка не быў заснаваны на павелічэнні актыўнасці на крэдытным рынку: наадварот, сума па радку «крэдыты кліентам» у банка скарацілася з 27,3 да 27,2 млрд BYN. Галоўны імпульс росту актываў даў радок балансу «каштоўныя паперы». Па гэтым радку сума ўзрасла з 4,1 да 4,9 млрд BYN. Рост па гэтым радку азначае, што банк уклаў грошы ў нейкія аблігацыі. Такі скачок дае падставы выказаць здагадку, што гэта маглі быць аблігацыі Мінфіна — напрыклад, у рамках дзяржпадтрымкі БМЗ.

Актывы Белаграпрамбанка за паўгода выраслі з 12,6 да 13,2 млрд BYN. Сітуацыя тая ж, што і з Беларусбанкам, — да росту актываў прывяло не крэдытаванне. Сума па радку «крэдыты кліентам» звалілася з 7,7 да 7,5 млрд BYN. Белаграпрамбанк таксама ўклаўся ў каштоўныя паперы — памер гэтых інвестыцый з 1 студзеня па 1 ліпеня вырас з 3,1 да 3,3 млрд BYN.

## Замкнёнае кола

Такім чынам, банкі ўкладаюцца ў куплю каштоўных папер Мінфіна, не купіць якія яны не могуць. Грошы ад продажу аблігацый Мінфіна ідуць на падтрымку прамысловасці, якая працуе неэфектыўна. Атрымліваецца дырэктыўна замкнёнае кола, разарваць якое ў дадзенай палітыка-эканамічнай сітуацыі магчымым не ўяўляецца.

Вось і атрымліваецца «брэжнеўскі застой»: згодна з паперамі ўсё добра, актывы растуць, прадпрыемствы працуюць, зарплата плаціцца... А калі глянуць крыху глыбей, то — грошы сыходзяць на падтрымку неэфектыўнай вытворчасці і ў прадухіленне (дакладней — адцягванне) сацыяльнага выбуху. Але такія захады — усяго толькі кансервацыя сістэмы, якая нават не прадугледжвае якога-небудзь развіцця. На развіццё няма ані сіл, ані сродкаў.

Гарбачоўская «перабудова», якая пачалася пасля «брэжнеўскага застою», паўстала не проста так. Яна ўзнікла з-за ўсведамлення адной праблемы: немагчымасці падтрымліваць малаэфектыўную савецкую сістэму вытворчасці пастаянным прытокам нафтадолараў. Таму паўстала неабходнасць у «Перабудове», якая спачатку мелася на ўвазе як рэарганізацыя гаспадарчых функцый і сувязяў, інтэнсіфікацыя эканомікі і паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу. Прычым, рыхтаваў «Перабудову» яшчэ Андропаў — Гарбачоў на першым этапе проста скарыстоўваў яго напрацоўкі.

Аднак у 1996-м, пасля абвалу цэнаў на нафту, высветлілася, што адміністрацыйнымі мерамі сітуацыю ў краіне не змяніць. І пайшло-паехала.

Грошы — не бясконцыя. У бліжэйшыя паўгода ў дачыненні да Беларусі паволі пачнуць дзейнічаць сектаральныя санкцыі. Ці чакае нас свая, новая «Перабудова»?

# Маці журналіста Дзяніса Івашына:

**Журналіст-расследавальнік Дзяніс Івашын з Гродна ўжо чатыры месяцы застаецца за кратамі ў турме. Яго затрымалі 12 сакавіка паводле арт. 365 Крымінальнага кодэкса — «Умяшанне ў дзейнасць супрацоўніка ўнутраных справаў». За гэты час Дзяніса неаднаразова вазілі на размовы ў КДБ, двойчы кідалі ў карцар. Падчас апошняй такой адсідкі яму стала блага з сэрцам. Ужо другі месяц журналіст не атрымлівае ніякіх лістоў з волі, піша «Белсат».**



### «Мы з тых родных, хто не будзе маўчаць»

«Сёння я як выцiснуты лімон: пэўна, праз усе эмоцыі», — пачынае расповед спадарыня Людміла, мама Дзяніса Івашына.

Журналісты сустрэліся з ёю пасля таго, як у Дзяніса здарыўся сардэчны прыступ. Яна размаўляла з начальнікам медычнай службы, які распавёў пра стан журналіста ў турме.

«Калі я запытала, што здарылася з сынам, ён пачаў з фразы: "Інфаркту не было". Пэўна, бачыў, у якім я была стане, і найперш вырашыў мяне супакоіць. Ён распавёў, што на фоне пастаяннага эмацыйнага, псіхалагічнага стрэсу, у якім Дзяніс застаецца ўжо чацвёрты месяц толькі за тое, што ён журналіст, пачаліся змены ў працы сэрца. Пачалося пачашчэнне і заміранне рытму. Як ад гэтага пазбавіцца? Толькі выключыць стрэс. А як выключыць стрэс у гэтых умовах і колькі гэта будзе яшчэ трываць?» — спадарыня Людміла сціскае замкам пальцы рук.

Дзянісу прапісалі лекі, каб аднавіць рытм сэрца. Спадарыня Людміла напісала заяву, каб сына паклалі на амбулаторнае абследаванне — адказалі, што неабходнасці ў шпіталізацыі няма, Дзяніс пад назіраннем.

«Зрабіць нейкае больш сур'ёзнае абследаванне ў турме немагчыма, у іх няма нават апарату УГД. Пасля размаўляла з намеснікам начальніка па ідэалагічнай працы, то запытала яго: турма ж, маўляў, называецца папраўчай установай, але якая яна папраўчая, калі яна губіць здароўе? Мяняйце назву», — распавядае спадарыня Людміла.

Дзяніс ужо двойчы быў у карцары. Пасля першага разу ён папрасіў перадаць лекі ад боляў у сэрцы, вітаміны. Родныя насцярожыліся: навошта, што здарылася? Але ніякай інфармацыі так і не атрымалі.

«Дзяніс вельмі нас любіць, як і мы яго, і вельмі нас ахоўвае, у тым ліку ад такой інфармацыі, якая можа нашкодзіць нашаму здароўю. Тады мы асабліва нічога і не даведаліся. Лекі і вітаміны купілі, аднеслі, але ў нас нічога не прынялі. Праз нейкі час праз адваката даведаліся, што здароўе ў Дзяніса больш-менш нармальнае, не скардзіцца», — кажа маці вязня.

Праз некаторы час журналіст трапіў у карцар другі раз. У ягонай камеры — 3,5 х 2 метры — стаяць два двух'ярусныя ложкі. Дзяніс спаў на другім ярусе, вызвалілася месца ўнізе — перамясціўся туды. За гэта яму далі пяць дзён карцару. Бывалыя людзі кажуць, што гэта занадта жорсткае пакаранне за такую правіннасць. Падчас гэтай другой адседкі Дзянісу стала блага. Запрасілі медыка, зрабілі кардыяграму. На наступны дзень журналіста выпусцілі з карцару, яго агледзеў кардыёлаг з паліклінікі, выпісалі лекі — для сэрца, супакаяльныя, вітаміны.

«Калі я даведалася пра гэта... Перадаць свой стан складана, гэта ўсё вельмі балюча. Пачала біць трывогу, напісала эмацыйны пост у "Фэйсбуку", што выклікала вялікі розгалас. І я гэтаму вельмі радая. Мы з тых родных, хто не будзе маўчаць, а будзе крычаць», — усхвалявана кажа спадарыня Людміла.

### «За здзекі і катаванні давядзецца адказваць»

Паводле маці, цяпер на псіхіку Дзяніса каласальна ціснуць. Напрыклад, раніцамі ў камеру прыходзіць намеснік начальніка турмы, прыносіць аркуш паперы: маўляў, сядай, пішы прызнанне. Увечары прыходзіць забіраць аркуш, а ён пусты.

«У чым Дзяніс мусіць прызнавацца? Ён ні ў чым не вінаваты. Таксама яго рэгулярна вазілі на размовы ў КДБ без адваката. Там прысутнічаюць людзі ў цывільным і падпалкоўнікі. Патрабаванне — прызнацца, узяць віну на сябе, супрацоўнічаць з органамі. Тады, магчыма, скароцяць тэрмін. Як такое вытрываць? Калі Дзяніса прывозяць у камеру пасля такіх размоваў, ён паўгадзіны моўчкі сядзіць і глядзіць у адну кропку на падлозе. Мяне хвалюе пытанне, хто тыя людзі, якія з ім гутараць. Беларусы ці заклятыя ўсходнія сябры?» — задаецца пытаннямі маці журналіста.

Дзяніс Івашын праходзіць падазраваным у справе паводле арт. 365 КК («Умяшанне ў дзейнасць супрацоўніка органаў унутраных справаў»). Яму пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі. Вядзе справу старшы следчы ў асабліва важных справах УКДБ Гродзенскай вобласці Аляксандр Лаўрэнчук. У чым прымушаюць прызнацца, невядома. Маці хвалюецца, што сыну могуць выставіць нешта падобнае, як і медыйнаму менеджару Андрэю Аляксандраву: здраду дзяржаве.

«Унутранае напружанне вельмі моцнае. Але я свайго сына буду абараняць усімі магчымымі спосабамі», — цвёрдым голасам кажам спадарыня Людміла.

Жанчына адзначае вельмі адчувальную падтрымку, у тым ліку з-за мяжы. Але ёй хацелася б, каб адбываўся большы ціск на ўлады Беларусі:

«Столькі людзей арыштаваныя і за кратамі ні за што, у жудасных умовах, пад велізарным прэсінгам. Гэта здзек і катаванні, за якія, вядома, усім давядзецца адказваць. Я перакананая: ніхто гэтага не прабачыць».

26 траўня памерла бабуля Дзяніса, якую ён даглядаў апошні год. Спадарыня Людміла пазваніла следчаму Лаўрэнчуку і папрасіла, каб сыну дазволілі развітацца. Ён адмовіў.

«На наступны дзень мне пазванілі і сказалі, што пастанавілі ўсё ж прывезці Дзяніса развітацца з бабуляй. Удакладнілі, калі, у які час, папрасілі, каб не здымалі відэа і фота. Раніцай у дзень пахавання, 28 траўня, я перазваніла Лаўрэнчуку і запытала, ці ўсё ў сіле, ці будзе Дзяніс. Следчы абурана сказаў, што нічога не ведае: яго паставілі перад фактам і ён дасюль супраць — пастанавілі без яго. Мы чакалі. Я стаяла каля вакна, каб бачыць уезд на могілкі, з надзеяй, што ўсё ж прывязуць Дзяніса. Не прывезлі. У дзень пахавання адвакатка пайшла да Дзяніса з самай раніцы, каб паведаміць пра ўсё і крыху падрыхтаваць. Ён быў у шоку ад навіны, але чакаў, што яго адпусцяць развітацца», — кажа маці журналіста.

### «Так наплачашся, пакуль прачытаеш»

З 19 траўня Дзяніс не атрымлівае ад родных лістоў. Спадарыня Людміла кажа, што яны адпраўляюць лісты з апавяшчэннем, маюць усе квіткі, што лісты дастаўленыя. Але Дзяніс нічога не атрымлівае.

«Штодня правяраем паштовую скрыню — пустая. Пішам лісты раз на тыдзень, кожны ліст

# «У дзень нараджэння мамы ў СІЗА сказалі:

**Саша — адзіная дачка Вікторыі Кульшы, присуджанай да двух з паловай гадоў калоніі. Пасля арышту мамы яна жыве на бабуліну пенсію, а добрыя людзі дапамагаюць збіраць перадачы на Валадарку.**



Саша была ва ўніверсітэце на занятках, калі па маму прыйшлі.

— Мама патэлефанавала і спытала пароль ад ноўтбука. Я назвала, і яна адключылася. Ноўт мне даў сябар, таму што наш кампутар быў у рамонце, а мне для вучобы трэба пісаць працы. Пасля заняткаў я тэлефанавала маме — тэлефон быў недаступны. Дома яе ўжо не было, — успамінае Аляксандра ў інтэрв'ю «Салідарнасці».

Пра тое, што маму могуць затрымаць, Саша ведала. Вікторыя папярэдзіла дачку, і яны разам распрацавалі план.

— Калі маму забіраюць, яна просіць патэлефанаваць дачцэ і кажа мне: «Ежа на сталe». Гэта значыць, што яе затрымалі. Далей я шукаю яе, у якім ІЧУ або СІЗА яна знаходзіцца, а потым прывожу неабходныя рэчы.

Па словах Сашы, Вікторыя збіралася з'ехаць з Беларусі, але не паспела.

— У нас з мамай у адносінах быў давер, я ведала, што ёсць такі вадзіцельскі чат у тэлеграме, і пра тое, што ў іх бываюць аўтапрабегі.

Дачка Вікторыі распавядае, што да выбараў–2020 яе мама не асабліва цікавілася палітыкай. Саша прыгадвае, як яны хадзілі галасаваць 9 жніўня.

— Мы прыйшлі на ўчастак з белымі бранзалетамі. Мая былая класная спытала, за каго мы ідзем галасаваць. Мама паказала белы бранзалет і сказала: «А то вы не ведаеце, за каго мы галасуем». Яна злавалася, таму што настаўніца працавала на ўчастку і не мела права задаваць такія пытанні.

Пасля арышту Вікторыі яе дачка засталася жыць з бабуляй і дзядулем.

— 12 лютага дзядуля памёр. Я патэлефанавала следчаму і папрасіла, каб маму адпусцілі на пахаванне развітацца з бацькам. Ён сказаў звяртацца ў ДВП. Там я пачула, што на гэта мама не мае права.

Саша напісала маме тры лісты, у якіх паведамляла пра смерць дзядулі, але Вікторыі іх не перадалі.

— У дзень нараджэння, 26 лютага, маме ў СІЗА сказалі: «Віншую, твой бацька памёр».

Мама ў смерць дзядулі не верыць. Кажа: я ў труне яго не бачыла, для мяне ён жывы.

За сем месяцаў Саша бачылася з мамай лічаныя разы — два спатканні і на судзе. Працэс быў закрыты, але Саша на пару хвілін трапіла

# Я буду змагацца за свайго сына да канца

нумаруем і пішам пад капірку. У мяне цэлая тэчка ліставання са следчым, пракуратурай і гэтак далей. Спадзяюся, усё гэта спатрэбіцца ў свой час. Хацела перадаць Дзянісу вентылятар у камеру, калі была гэтая спякота. Не ўзялі. Ведаючы пры гэтым, што ў яго праблемы са здароўем. Такая вось "чалавечнасць", усё накіраванае на тое, каб прынізіць, зламаць чалавека», — адзначае спадарыня Людміла.

Калі жанчына пачынае казаць пра лісты ад Дзяніса, голас становіцца мяккім і цёплым, а на твары з'яўляецца лёгкая ўсмешка:

«Дзяніс піша вельмі кранальныя лісты, заўсёды так наплачашся, пакуль прачытаеш. Пасля перачытваеш па сто разоў. Ён больш нас падтрымлівае ў лістах. Дае парады, як усё вытрываць. Расстройваецца, што не можа нічым нам дапамагчы. У кожным лісце перадае падзякі тым, хто нас падтрымлівае. Не скардзіцца ні на што. Піша, што трымаецца, займаецца фізічнаю падрыхтоўкай, наколькі магчыма, шмат чытае. Дзяніс любіць фантастыку, цяпер чытаў Шандаровіча. Ужо пэўна палову турэмнай бібліятэкі перачытаў. Выпісалі яму газету "Новы Час" — не прынеслі ні аднаго нумару. Затое прыносяць "Звязду", "Гродзенскую праўду", "СБ". Але ён як журналіст умее чытаць паміж радкоў».

Людміла Івашына жыве за горадам, мае невялікую гаспадарку, гадуе птушак — курэй, гусей, качак. Пра гэта і піша сыну ў лістах:

«Пішу яму дзіцячыя наіўныя лісты, яму гэта падабаецца, гэта яго крыху расслабляе. Прашу, каб пабольш займаўся фізічнымі практыкаваннямі, бярог вочы і не так шмат чытаў, псіхалагічна рыхтаваў сябе да таго, што адбываецца. Пішам самыя добрыя лісты. Дай Бог, яны ўсе захаваюцца. У Дзяніса ёсць мара напісаць кнігу пра сваю сям'ю. Ён вывучаў наш радавод, гадоў на 300 углыб пайшоў. І гэта настолькі цікава! І, магчыма, нашая цяперашняя перапіска таксама ўвойдзе ў гэтую кнігу».

### «Праца Дзяніса патрэбная краіне»

Бацька Дзяніса — украінец, родам з Дняпра, працаваў на «Азоце» інжынерам, яго ўжо даўно няма сярод жывых. Маці журналіста працавала ў дзіцячым садку. Дзяніс выхоўваўся ў вельмі спакойнай інтэлігентнай сям'і.

«Ён вельмі сумленны чалавек, лепей прамаўчыць, але ніколі не схлусіць. Ягоная бабуля, Раіса Барысаўна, мая мама, вучыла яго быць заўсёды сумленным. А мая бабуля Васіліса заўсёды казала: хлусіць ніколі нельга, любая хлусня вылезе праз 30–40 дзён. І гэта мне, маленькай дзяўчынцы, так уелася ў памяць», — згадвае спадарыня Людміла.

У журналіста ёсць старэйшы брат Мікалай, ён жыве ў Францыі, працуе ў буйным каледжы загадчыкам гаспадаркі. Кожны дзень тэлефануе: пытае, як Дзяніс, якія навіны.

«Дзяніс з трох гадоў пачаў чытаць усё запар. Пакуль я вяла яго ў садок, ён столькі гісторыяў прыдумляў і распавядаў, так цікава фантазаваў! З лісточкаў мульцікі выразаў і склейваў. Пэўна, таму да гэтага часу любіць фантастыку. Калі вучыўся ў школе, я ніколі не правярала ягоных хатніх заданняў, настолькі адказна і самастойна ён да ўсяго падыходзіў. Гэтая рыса захавалася і ў дарослым жыцці», — адзначае маці палітычнага вязня.

У юнацтве Дзяніс быў у «Маладым фронце». У 1990-я адбывалася шмат цікавых акцыяў, тады і зарадзіліся нацыянальныя каштоўнасці ў Дзяніса і шмат іншых беларусаў.

«У той час там былі беларусы — сапраўдныя глыбы: Зянон Пазняк, Міхась Ткачоў, Мікола Маркевіч. Цудоўныя людзі, гонар Беларусі! І яны мелі сілу, маглі штосьці рабіць. Дзяніс хадзіў на імпрэзы і пасяджэнні, яны ездзілі па памятных месцінах, ускладалі вянкі і кветкі», — згадвае спадарыня Людміла.

Дзяніс мае эканамічную адукацыю, але прысвяціў сваё жыццё журналістыцы. Першыя




свае працы напісаў пра падзеі ў Сірыі: збіраў, сістэматызаваў, аналізаваў інфармацыю з адкрытых крыніцаў. Матэрыялы выклікалі цікаўнасць, тады пра Дзяніса ўпершыню пачулі. У 2014 годзе ён паехаў на Майдан: не мог абыякава глядзець на тое, што адбываецца ва Украіне. Прабыў там нядоўга, але паспеў пазнаёміцца з камандай «Інфармнапалму», якая займаецца расследаваннямі. Спачатку перакладаў іх працы, а пасля паглыбіўся, вывучыў справу і пачаў рабіць свае расследаванні.

«У яго гэта вельмі добра і лёгка атрымліваецца, унутры сядзеў гэты аналітычны талент. І галоўнае — яму гэта падабалася. Спадзяюся, будзе яшчэ доўга падабацца, ён напіша яшчэ шмат расследаванняў, будзе прыносіць карысць сваёй працаю», — з гонарам кажа спадарыня Людміла.

Дзяніс ужывае не проста беларускую мову, а тарашкевіцу. Ён вельмі ўседлівы, калі нешта задумаў — зробіць.

«Гэтая якасць карысная ў расследаваннях: ён знаходзіць, супастаўляе і аналізуе велізарны аб'ём інфармацыі. Праца Дзяніса патрэбная краіне! Калі ён выкрываў "казачкоў" і агентаў "русского мира" ў Беларусі — гэта ж важна для нацыянальнай бяспекі. Дзяніс рабіў працу нашых органаў, ускрываў гэтыя ўсе факты», — перакананая маці журналіста.

### «Ён казаў: я не магу маўчаць»

Маці заўсёды трывожылася за сына, яны не раз абмяркоўвалі, што здарыцца можа што заўгодна:

«Напярэдадні ягонага затрымання, дні за два, мы з ім менавіта пра гэта размаўлялі. Я казала Дзянісу: яны могуць зламаць лёс, зрабіць шмат непрыемнасцяў. Ён мне адказаў: "Мама, я ўсё разумею, я да ўсяго гатовы. Я ведаю, што так можа адбыцца, але я не буду маўчаць. Я не магу маўчаць. Я павінен даносіць людзям праўду". І праз некалькі дзён суседка мне паведамляе: Дзяніса забралі. Што я адчула ў той момант? Сэрца часцей забілася. Шок. Не ведаю, як гэта назваць. Галава цяміць, але сэрцу сказаць "супакойся" немагчыма. Ідзе такі разнабой галавы і сэрца... Праз некалькі гадзінаў прыехалі з ператрусам да нас за горад».

Дзянісу шмат хто раіў з'ехаць з краіны, але ён і слухаць не хацеў. Казаў, што гэта ягоная краіна і ён будзе тут жыць, што б ні здарылася. Маці падкрэслівае: Дзяніс — вялікі патрыёт Беларусі. Сям'ёй яны практычна ў кожныя выхадныя ездзілі ў розныя куткі краіны, Дзяніс рыхтаваўся і ладзіў родным экскурсіі.

«Пасля затрымання сына мы адразу сабраліся і пачалі думаць, што рабіць, пазначылі планы. Першы крок, другі, трэці. Нават не паўставала такога пытання, каб баяцца. Мы не з баязліўцаў. Я буду змагацца за свайго сына да канца. Робім што можам. Крычым, тупаем, грукаемся ўва ўсе дзверы. Але, думаю, калі б не было падтрымання, то і мяне не было б. Я ўжо не кажу, як працуе маё сэрца. Але я мушу дачакацца Дзяніса», — кажа спадарыня Людміла.

Галоўнае апірышча для маці сёння — жонка журналіста Вольга:

«Воля і Дзяніс вельмі падобныя. Воля такая ж сумленная, у чымсьці ўпартая, настойлівая. Яны абое цудоўна размаўляюць па-беларуску. За імі вельмі цікава назіраць, асабліва калі яны пачынаюць буркаваць, калі разам спяваюць песні, размаўляюць, спрачаюцца. Гэта ўсё так прыгожа! Яны як адно цэлае. Я Волю вельмі люблю. Яна столькі робіць для Дзяніса. Яна разумніца, шмат пра яго піша, практычна ўзяла на сябе ягоную працу, стала журналісткаю. Мы цяпер практычна ўвесь час разам. З ёю мы можам паразмаўляць на любыя тэмы, падзяліць на дзвюх гэты агульны боль».

### Як падтрымаць Дзяніса і ягоную сям'ю

Падтрымаць Дзяніса Івашына можна, пішучы яму лісты (лепш замоўныя з апавяшчэннем), а таксама пералічыўшы грошы ў турму, каб ён мог набыць сабе неабходныя рэчы.

Рэквізіты для грашовага пераводу:
Турма № 1, Гродна
УНП: 590003691
BIC: BAPBBY2X
IBAN: BY81BAPB3642905 0005540000000

Адрас для лістоў:
Дзянісу Яўгенавічу Івашыну
Турма № 1, вул. Кірава, д. 1, 230023, г. Гродна.

Хто хоча фінансава падтрымаць сям'ю Дзяніса Івашына, можна адправіць перавод на банкаўскую карту:
«БПС-СБЕРБАНК»: 5435 5311 6677 1004
LIUDMILA IVASHINA-DOBINA

# «Віншую, твой бацька памёр»

ў залу, бо праходзіла сведкай па справе.

— Мама расказвала, што на пятыя суткі пасля затрымання яе некалькі разоў ударылі па твары. Па яе словах, гэта зрабілі ў ГУБАЗіК. Ёй пагражалі, што адсядзіць яна па максімуме. Але яна ўсё роўна не прызнала віны.

Ведаю, што ў першыя дні на Акрэсціна ёй не давалі пасцельнай бялізны, а на Валадарцы мама пабывала ў ШІЗА, у карцары, у камеры адзіночнага тыпу.

На Дзень Волі яна атрымала 10 сутак карцара за бчб-заколку. 25 сакавіка ўсе жанчыны ў камеры надзелі белыя футболкі. У адной з іх была заколка, і ўсе яе па чарзе насілі. Ведаю, што мама зрабіла сабе бчб-пярсцёнак з пластыкавых коркаў і не здымае яго.

Як «палітычнай» ёй перадаюць не ўсе лісты, забаронена чытаць газеты, акрамя рэлігійных, і глядзець тэлевізар. Поўная інфармацыйная блакада.

Супрацоўнікі СІЗА казалі маме, што ёй ніхто не піша, усе пра яе забыліся. Яна пытаецца: «Як жа пра мяне забыліся, калі на маё імя прыходзяць пасылкі ад іншых людзей? Значыць, мне нехта піша». На што ёй адказвалі: сабраць пасылку — гэта не ліст напісаць.

Мама адказвае кожнаму, чые лісты атрымлівае. Для тых, хто сядзіць у СІЗА, ліставанне — гэта занятак нумар адзін.

З мамай у камеры на Валадарцы сядзелі яшчэ дзве палітзняволеныя, адна з іх — студэнтка.

Саша кажа, што прысуд у дачыненні да мамы абскарджаны і ўступіў у законную сілу.

— Усё, у чым яе абвінавачваюць, — няпраўда. Мая мама гадавала мяне з двух гадоў адна. Таты ў мяне няма. Яна заўсёды шмат працавала. Была строгай — і за бацьку, і за маці.

Аднагрупнікі Сашы ведаюць, што яе мама — палітзняволеная:

— У дзень суда палова з іх напісалі мне: «Усё будзе добра», хоць я ім не казала пра дату пасяджэння.

Па словах Сашы, яна хацела кінуць вучобу, але не робіць гэтага дзеля мамы. Пасля сесіі збіраецца падпрацоўваць.

— Нядаўна ўпершыню перавяла маме на рахунак грошы — 50 рублёў. Гэтага хопіць на маянэз, ваду і цыгарэты. У СІЗА мама пачала паліць.

Перадачы для Вікторыі Кульшы збіраюць у асноўным валанцёры. Саша засмучаная тым, што не ўсе знаёмыя мамы яе падтрымалі.

— Мама старалася ўсім дапамагчы. А тых, хто ёй цяпер дапамагае з яе круга, можна пералічыць на пальцах адной рукі. Адваката дапамог знайсці мамчын аднакласнік — ён сам сядзеў на сутках некалькі разоў. У асноўным падтрымліваюць неабыякавыя людзі, з якімі раней мы не былі знаёмыя. Я ім усім вельмі ўдзячная.

Саша саромеецца прасіць пра дапамогу: «Чаму мае праблемы павінен вырашаць нехта іншы?»

Вікторыя Кульша да затрымання працавала інжынерам па ахове працы. Была адміністратарам тэлеграм-канала і чату, прызнанага экстрэмісцкім, за што яе затрымалі 4 лістапада 2020 года супрацоўнікі ГУБАЗіК.

4 чэрвеня ў судзе Заводскага раёна быў абвешчаны прысуд па крымінальнай справе супраць чатырох адміністратараў тэлеграм-канала і чата. Суддзя Жанна Хвайніцкая асудзіла траіх, якія не прызналі віну, да двух з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму. Менавіта такі тэрмін атрымала Вікторыя.

Чацвёртая фігурантка справы Таццяна Шкробат, якая супрацоўнічала са следствам і прызнала віну, атрымала тры гады «хатняй хіміі».

Калі вы хочаце падтрымаць палітзняволеную Вікторыю Кульшу, напішыце ёй або зрабіце перавод на яе імя ў любым паштовым аддзяленні: Кульша Вікторыя Аляксандраўна, Следчая турма №8, 222163, г. Жодзіна, вул.Савецкая, 22А.

**«Салідарнасць», пераклад НЧ**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Пабілі рэкорд!

На мінулым тыдні — 6 ліпеня — Казахстан адзначыў дзень нараджэння былога прэзідэнта Нурсултана Назарбаева. Таксама на гэтую дату прыпадае дзяржаўнае свята — Дзень сталіцы. У такі святочны дзень рэкорд усталявала паліцыя.

У гэты дзень у Алматы актывісты апазіцыі паспрабавалі пратэставаць супраць кітайскай экспансіі і росту цэнаў. У адказ мясцовая паліцыя ўжыла свой любімы прыём — «кетлінг» — атачэнне групы пратэстоўцаў кардонамі і ўтрыманне іх унутры загароды на працягу нейкага перыяду часу. У падобны кетлінг трапілі пратэстоўцы і 6 ліпеня. Аднак гэтым разам сілавікі трымалі іх незвычайна доўга — цэлых дзевяць гадзін, і вызвалілі, калі на дварэ была ўжо ноч.

У чым прычына новай тактыкі, не паведамляецца. Застаецца хіба дадаць, што папярэдні рэкорд таксама належаў сілавікам Алматы. У лютым гэтага года яны пратрымалі актывістаў у атачэнні сем гадзін.

**Паводле казахстанскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Выпадковая сталіца

Берлінцы адзначаюць незвычайны юбілей — 30 гадоў таму іх горад быў абвешчаны сталіцай Германіі, а ўрад пачаў пераезд з Бона на берагі Шпрэе. Паралельна юбілею гісторыкі зноў спрабуюць зразумець, чаму многія немцы тады былі супраць аднаўлення сталічнага статусу Берліна.

Гэта добра ілюструюць вынікі галасавання пра перанос сталіцы ў парламенце. За ініцыятыву прагаласавалі 338 дэпутатаў Бундэстагу, а супраць — 320. Звычайна скепсіс наконт Берліна тлумачылі тым, што горад быў сінонімам прускага мілітарызму, цэнтралізму і ваяўнічага пратэстантызму. Гэта выклікала «антыберлінскія» пачуцці сярод левых партый, каталікоў і аматараў федэрацыі.

Аднак цяпер да гэтых фактараў дадаўся новы. Як піша прэса, прыхільнікамі Бона былі ў першую чаргу заможныя заходнія немцы, для якіх Бон з'яўляўся сімвалам пасляваеннага росквіту краіны. Як бы там ні было, магчыма, усё тады вырашыла жоўтая прэса. Таблоіды накшталт Bild правялі шумную кампанію, пераканаўшы большасць немцаў у тым, што іх сталіца — Берлін.

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. Парламент наркаманаў

Украінская прэса і грамадства актыўна абмяркоўваюць скандал з удзелам Аляксандра Юрчанкі — дэпутата Вярхоўнай Рады ад прэзідэнцкай партыі «Слуга народа».

8 ліпеня ў Львове палітык здзейсніў аўтамабільную аварыю, і распачаў бойку з мінаком, які здымаў гэтую сцэну на камеру тэлефона. У выніку хуліган трапіў у рукі паліцыянтаў, якія канстатавалі, што той знаходзіцца пад уздзеяннем наркотыкаў.

Прычым, гэта не першы выпадак. Раней, таксама будучы пад уздзеяннем наркотыкаў, Юрчанка быў арыштаваны за спробу скрасці піва ў краме.

На першы погляд, пацешная гісторыя прыгод Юрчанкі дазволіла некаторым лідарам апазіцыі патрабаваць праверкі ўсіх дэпутатаў наконт нарказалежнасці. Але значна цікавейшае тое, што скандал з Юрчанкам здарыўся напярэдадні пазачарговага пасяджэння ўкраінскага парламента, на якім будзе разглядацца законапраект пра легалізацыю медыцынскай марыхуаны, які лабіруе прэзідэнт Зяленскі. Усё гэта ўзмацняе ў шмат каго версію, што ў кіраўніцтве краіны нешта паляць.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ПАЎНОЧНАЯ КАРЭЯ. Схуднеў ад працы

Прэса Паўночнай Карэі вельмі арыгінальна тлумачыць гледачам незвычайную трансфармацыю іміджу правадыра Кім Чэн Ына. Некалькі тыдняў таму ён, як вядома, знік з навінаў, каб вярнуцца ў выразна лепшай фізічнай форме. Некаторыя пішуць, што дыктатар страціў каля 20 кілаграмаў вагі.



Хутчэй за ўсё, сесці на дыету і заняцца спортам Кім Чэн Ына прымусілі праблемы са здароўем, выкліканыя цыгарэтамі і неразборлівым меню. Аднак у КНДР агучваць такую версію небяспечна. Людзям прапануецца афіцыйная трактоўка прычыны, чаму правадыр рэзкага схуднеў.

Калі верыць выпускам паўночнакарэйскіх навін, Кім Чэн Ын страціў вагу з-за таго, што ўвесь час працуе для народа, і нават часам забывае паесці. Вось такі працавіты лідар дастаўся паўночным карэйцам.

**Паводле брытанскай прэсы**




Фота www.aljazeera.com

# Кубамайдан

Алег НОВІКАЎ

**Упершыню за шмат гадоў на Кубе пачаліся масавыя палітычныя пратэсты.**

Што зрабілі кубінскія ўлады, калі раптам даведаліся пра пратэставыя акцыі? Правільна — інстынктыўна, на аўтамаце, вырубілі інтэрнэт ва ўсёй краіне. Таму дакладнай і комплекснай карціны таго, што адбываецца на Кубе, няма ні ў каго. З масіву той інфармацыі, якая паспела прайсці, з нейкай доляй упэўненасці можна заключыць наступнае.

Выступы, эпіцэнтрам якіх стаў шэраг гарадоў на Захадзе выспы, пачаліся 11 ліпеня. Верагодна, яны нейкім бокам былі звязаныя з мінорнымі навінамі з эпідэміялагічнага фронту (у гэты дзень на Кубе была зафіксавана рэкордная колькасць новых выпадкаў заражэння каронавірусам).

Акрамя заклікаў забяспечыць народ медыкаментамі і вакцынамі, гучалі патрабаванні палітычнага характару. Дэманстранты патрабавалі свабодных выбараў і вырашэння сацыяльных праблем — у прыватнасці, прыняць захады супраць дрэннага забеспячэння прадуктамі. Агенцтва Reuters і AFP ацэньваюць колькасць удзельнікаў пратэстаў у некалькі тысяч.

Пакуль няма выразнага ўяўлення наконт ініцыятараў пратэстаў і іх спікераў, хоць глыбінныя прычыны выступаў відавочныя. Гэта ўзмоцненая ў апошнія гады эканамічная блакада з боку ЗША і пандэмія COVID, якая фактычна пазбавіла Кубу асноўнай крыніцы валюты — турызму. Па выніках гэта ўсё стварыла напружаную атмасферу, пачуццё адчаю, што і выклікала стыхійны бунт. Дзякуючы інтэрнэту навіна пра выступ хутка распаўсюдзілася, правакуючы ў іншых гарадах аналагічныя акцыі.

Зрэшты, не абышлося без канспіратыўных тэорый. У інтэрнэце таксама пішуць, што пратэстоўцы, быццам, працавалі паводле адной метадычкі. Выступы адначасова ўспыхнулі ў розных кропках выспы, усюды адбываліся напады на паліцыю і выкарыстанне сцягоў ЗША. Адсюль робіцца чаканая выснова: гэтыя «стыхійныя пратэсты» і іх інфармацыйнае асвятленне старанна планаваліся за мяжой. Орган кампартыі Granma нават называе канкрэтную суму — два з паловай мільёны долараў, якія апазіцыя нібыта атрымала па лініі USAID на «кубамайдан».

Праўда, незразумела, як тэхнічна можна арганізаваць і кардынальна змову ў краіне, дзе даўно наладжаны апарат маніторынгу дзейнасці дысідэнтаў. Дапамагае гэтаму і рэдакцыя мясцовага Крымінальнага кодэкса, якая прадугледжвае шэраг абвінавачанняў з размытымі фармулёўкамі, што могуць лёгка прымяняцца ў любы час для падаўлення іншадумства. Напрыклад: «грамадская небяспека», «варожая прапаганда», «непавага да ўладаў», «паклёп на нацыянальныя інстытуты» і гэтак далей.

Так ці інакш, улада выклік вуліцы прыняла. У адказ на ўзрушэнні 11 ліпеня прэзідэнт Кубы Мігель Дыяс-Канэль заявіў пра гатоўнасць біцца і памерці за рэвалюцыю: «Мы гатовыя аддаць сваё жыццё. Ім трэба пераступіць праз нашы трупы, калі яны хочуць сустрэцца з рэвалюцыяй. Мы гатовыя да ўсяго і будзем змагацца на вуліцах», — сказаў гарант. На яго загад лаяльныя грамадскія арганізацыі выводзяць свой актыў на вуліцы. Калі верыць афіцыёзу, у панядзелак улады цалкам аднавілі кантроль над сітуацыяй.

Апазіцыйныя СМІ накшталт SOSCuba прызнаюць, што «усе дэманстрацыі спыніліся, і пратэстоўцы разышліся па хатах» за выключэннем, магчыма, горада Сьега-дэ-Авіла. Тут у панядзелак, нібыта, была заўважаная нейкая вулічная актыўнасць. Таксама паведамляецца пра пачатак маштабнай зачысткі.

Па начах сілавікі і сімпатызанты рэжыму ладзяць расправы і арышты ўдзельнікаў пратэстаў. Таксама экстрана прапрацоўваецца план паставак прадуктаў і вакцын з Кітая для хуткага купіравання праблемаў.

Цікава, што пры гэтым улады разумеюць: народ не задаволіцца вяртаннем да былога статус-кво. У рэдакцыйнай калонцы той жа Granma дапускаюць у будучыні нейкую лібералізацыю ў форме «разгортвання новых спосабаў сувязі паміж кіраўніцтвам і ўсімі пластамі насельніцтва праз абнаўленне і ўзмацненне інструментаў народнага кантролю». Калі такі сцэнар спрацуе, то цяперашні рэжым захаваецца з нейкімі касметычнымі папраўкамі. Праўда, праз нейкі час яго існаванне зноў, напэўна, будзе пад пытаннем, паколькі сістэмныя праблемы застануцца не вырашанымі.

Прапануюцца і іншыя схемы развіцця падзей. Некаторыя спадзяюцца, што беспарадкі на Кубе ў выпадку працягу цалкам могуць справакаваць ЗША на ўмяшанне. Такое рашэнне можа паскорыць актыўнасць кубінскай дыяспары ў Фларыдзе, якая ўжо ладзіць дэманстрацыі з патрабаваннем да Байдэна пачаць вырашэнне кубінскага пытання.

Белы дом, у сваю чаргу, абмяжоўваецца заявамі агульнага характару. Дарадца прэзідэнта ЗША па нацыянальнай бяспецы Джэйк Саліван заявіў, што ўлады Кубы не павінны выкарыстоўваць гвалт у дачыненні да пратэстоўцаў, і паабяцаў «рашучым чынам асудзіць любы гвалт або дзеянні, накіраваныя супраць мірных пратэстоўцаў».

**Улады разумеюць: народ не задаволіцца вяртаннем да былога статус-кво. У рэдакцыйнай калонцы Granma дапускаюць у будучыні нейкую лібералізацыю ў форме «разгортвання новых спосабаў сувязі паміж кіраўніцтвам і ўсімі пластамі насельніцтва»**

Як бачым, наступныя дзеянні гульцоў кубінскай партыі шмат у чым залежаць ад таго, ці працягуцца выступленні кубінцаў, і наколькі яны будуць масавымі. У бліжэйшыя некалькі тыдняў, думаецца, мы гэта пабачым.

# Персідскі базар

Алег НОВІКАЎ

**Якая дыктатура без грандыёзных імпрэзаў? А самая вялікая з падобных імпрэзаў у сучаснай гісторыі, на думку спецыялістаў, адбылася паўстагоддзя таму ў Іране, дзе мясцовы шах вырашыў адсвяткаваць 2500 гадоў імперыі Кіра II Вялікага з дынастыі Ахеменідаў.**



Фота www.pinterest.com

Трэба сказаць, што ідэя буйной імпрэзы ў гонар Кіра Вялікага — персідскага цара, які стварыў імперыю ад Індыі да Егіпта, гучала і раней. Пра такое мерапрыемства даўно марылі тутэйшыя аматары іранскай культуры і гісторыі. Аднак яны бачылі тое святкаванне, хутчэй, як вялікую акадэмічную канферэнцыю, якая выкліча ў навуковым свеце цікавасць да іраністыкі. У адміністрацыі шаха Махамеда Рэза Пехлеві першапачатковую канцэпцыю юбілею падкарэктавалі. У 1970 годзе перад вярхоўным улады была пастаўленая іншая задача — «прадэманстраваць старажытную цывілізацыю і гісторыю Ірана для прыцягнення ўвагі да дасягненняў шаха».

На практыцы гэта азначала — давесці, што дынастыя Пехлеві не саступае ў раскошы дынастыі Ахеменідаў. У гэтым плане не дзіўна, што святкаванне, згодна з рашэннем шаха, чамусьці павінна было адбыцца 15 кастрычніка 1971 года — дата, якая дзіўным чынам практычна супадала з днём нараджэння яго жонкі.

## Шакавальныя па раскошы ўрачыстасці прымусілі заходніх дыпламатаў задумацца наконт вялікага эканамічнага разрыву паміж простым народам і элітай

Так праект, які першапачаткова меў навуковую накіраванасць, стаў нацыянальнай справай. Маштабы ідэяў у шаха і яго каманды сапраўды былі глабальныя. Было вырашана правесці галоўныя мерапрыемствы на руінах старажытнага горада Персеполь, які быў разбураны Аляксандрам Македонскім яшчэ ў трэцім стагоддзі да нашай эры.

Для гэтага перш за ўсё тэрыторыя вакол персепольскіх руінаў была ачышчана ад змей і іншых паразітаў. Былі пасаджаныя дрэвы і кветкі, і нават завезеныя пеўчыя птушкі. Іх у колькасці 50 тысяч штук імпартавалі з Еўропы. Рэканструявалі галоўны аэрапорт у суседнім горадзе Шыразе і шашу, якая вяла ў Персеполь.

Разынкай атракцыёна ў Персеполі стаў «залаты горад» з 50 намётаў для гасцей. Унутры кожнай палаткі месціліся раскошныя апартаменты з традыцыйным персідскім каларытам. Кожная палатка была забяспечана прамым тэлефонам і тэлексам. Для перавозкі гасцей спатрэбілася 250 чырвоных лімузінаў Mercedes-Benz 600. Ежу, якую прадаставіў знакаміты парыжскі рэстаран Maxim's, падавалі толькі ў посудзе з французскага фарфору.

Не забыліся і пра бяспеку. SAVAK — служба бяспекі Ірана — атрымала права браць пад «прэвентыўны арышт» усіх, каго падазравала ў патэнцыйнай пагрозе. Усяго за час святаў было затрымана каля 1500 чалавек, лёсу якіх можна толькі паспачуваць. SAVAK мае адну з самых змрочных рэпутацый у гісторыі спецслужб. Метады допытаў у яе супрацоўнікаў былі адпаведныя: удары токам, катаванні кіпенем, вырыванне зубоў і пазногцяў, пратыканне цела цвікамі і гэтак далей.

Так ці інакш, свята, на якім прысутнічала 60 прадстаўнікоў каралеўскіх дамоў, стартавала 12 кастрычніка 1971 года. У гэты дзень шах з жонкай ушанавалі памяць Кіра Вялікага ў яго маўзалеі. 14 кастрычніка адбылася грандыёзная гала-вячэра ў гонар дня нараджэння жонкі шаха. 600 гасцей вячэралі на працягу пяці з паловай гадзін, што стала самым працяглым і самым раскошным афіцыйным банкетам у сучаснай гісторыі. Гэты факт быў адразу зафіксаваны ў выпусках Кнігі рэкордаў Гінеса.

Уразіў аўдыторыю і вялікі ваенны парад армій розных іранскіх імперый. Але, думаецца, прысутным гісторыкам лепш запомніўся арыгінальны тэзіс, які шах агучыў у сваёй прамове. Ён назваў імператара Кіра «аўтарам першай хартыі правоў чалавека ў гісторыі».

Аднак яшчэ больш цікавымі былі вынікі юбілею. Пазней некаторыя гісторыкі прыйшлі да высновы, што ён наўпрост спрыяў дынамічнаму стварэнню падстаў для рэвалюцыі 1979 года. Перш за ўсё, праз свой празмерна дарагі бюджэт — фактычная сума, паводле разлікаў французскай прэсы, перавысіла 200 мільёнаў долараў. Усе без выключэння апазіцыйныя групоўкі — ад левых да ісламістаў — аднагалосна абурыліся мерапрыемствам.

Некаторыя пішуць, што дзякуючы юбілею апазіцыйны рух здолеў дамагчыся амаль гістарычнага поспеху ў барацьбе за грамадскае меркаванне ў заходніх краінах. Адзін з лідараў студэнцкай апазіцыі за мяжой пазней пісаў, што шакавальныя па раскошы ўрачыстасці прымусілі заходніх дыпламатаў задумацца наконт вялікага эканамічнага разрыву паміж простым народам і элітай, якая можа забяспечыць лаяльнасць людзей выключна за кошт рэпрэсій. Нават прэса ЗША, урад якой традыцыйна падтрымліваў рэжым шаха, абуралася створанай ім у 1971 годзе «пацёмкінскай вёскай».

Але пакуль заходнія дыпламаты паступова прыходзілі да разумення палітычнай прыроды шахскага рэжыму, значна большы рэзананс атрымаў тэкст адной пракламацыі. Яе напісаў у эміграцыі аятала Хамейні, які назваў святкаванне антыісламскім і дэкадэнцкім актам. «Свет павінен ведаць, што гэты фестываль не мае нічога агульнага з Іранам, і што тыя, хто прымаў удзел у гэтым фэсце, здрадзілі ісламу і іранскаму народу», — абураўся клерыкал, пасляць якога ператварылася ў народзе ў сімвал супраціву шаху.

Іранскай манархіі, якая на той момант святкавання ў Персеполісе лічылася адной з трох самых старэйшых на Зямлі, заставалася існаваць усяго некалькі гадоў...

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Лула да Сілва



Былы бразільскі прэзідэнт ад левай Партыі працоўных (PT), які пасля заканчэння двух кадэнцый быў асуджаны за карупцыю, у гэтым годзе, пасля 18 месяцаў зняволення, апраўданы.

Пасля выхаду з турмы Луіс Інасіу Лула да Сілва можа здзейсніць, напэўна, самы немагчымы піруэт у гісторыі. Паводле апытання бразільскіх сацыёлагаў, якое было праведзенае 5–7 ліпеня 2021 года, экс-прэзідэнт краіны выйграў бы сёння ва ўсіх сваіх палітычных праціўнікаў. У другім туры прэзідэнцкіх выбараў ён бы лёгка ўзяў верх над дзеючым прэзідэнтам краіны Жаірам Балсанару: Лула да Сілва ў другім туры атрымаў бы 55%, у той час як дзейны прэзідэнт набраў бы ўсяго 32% галасоў.

У такіх лічбах няма нічога дзіўнага. З-за эканамічных праблем у краіне, а таксама з-за наймацнейшага распаўсюджвання каронавіруса ў Бразіліі, рэйтынг Балсанару рэзка абваліўся. А антырэйтынг дзеючага прэзідэнта, якога можна аднесці да лагеру правых папулістаў, складае цэлых 60%.

Застаецца дадаць, што прэзідэнцкія выбары ў Бразіліі, удзел у якіх Лула да Сілва ўжо анансаваў, адбудуцца ў наступным годзе. Як бачым, часам турэмны тэрмін для палітыка — далёка не прысуд. Зрэшты, палітолагі не выключаюць і трэцяга сцэнару. Лула да Сілва і Жаір Балсанару — палітыкі-антаганісты, якія палярызуюць палітычную сцэну. У такой сітуацыі ў многіх бразільцаў можа з'явіцца запыт на ўмеранага кандыдата-цэнтрыста.

### Мая Санду



Прэзідэнтка Малдовы і лідарка праеўрапейскай партыі PAS па выніках парламенцкіх выбараў 11 ліпеня атрымалі больш за 50% галасоў, у той час як усе астатнія партыі маюць усяго 35%. Санду, такім чынам, атрымала абсалютную ўладу ў парламенцкай рэспубліцы.

З іншага боку, незразумела, як яна скарыстаецца трыумфам. Відавочна, што з-за новага вітка эпідэміі ў Еўропе малдоўская тэма — не вельмі цікавая. Мяркуючы па асцярожных выказваннях Санду на адрас Расіі і Пуціна, яна, хутчэй, мае намер кантактаваць з расійскай уладай. Апошняя, дарэчы, гэтым разам дыстанцыявалася ад падтрымкі сацыялістаў — галоўных канкурэнтаў Санду. Паскораная інтэграцыя Малдовы ў Румынію таксама, падобна, не карыстаецца вялікай цікавасцю, пра што сведчыць відавочны правал на выбарах уніяністаў, якія выступаюць за такое аб'яднанне. Іх партыя набрала менш за 1% галасоў.

Паколькі чакаць рэзкай змены знешнепалітычнага курсу Малдовы няма асаблівых падстаў, аналітыкі падазраюць, што новы ўрад абвесціць крыжовы паход супраць карупцыянераў. «Заканчваецца цяжкая эпоха для Малдовы, і надыходзіць канец праўлення злодзеяў», — пафасна сказала прэзідэнтка ў сваёй першай заяве пасля перамогі яе партыі. У любым выпадку, вынік выбараў азначае, што постсавецкая эпоха з яе элітамі і забабонамі адыходзіць цяпер і ў Малдове (услед за Украінай і Арменіяй).

### Джэйкаб Зума



Былы прэзідэнт Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі (ПАР) у пачатку чэрвеня быў прысуджаны да 15 месяцаў пазбаўлення волі за грэбаванне судовай сістэмай падчас знаходжання ва ўладзе. Сам Зума спачатку ісці ў турму адмовіўся — і трапіў туды толькі днямі.

Яго прыхільнікі выйшлі на вуліцы з пратэстамі, якія ў многіх месцах перараслі ў акцыі гвалту. Прычым акцыі набылі такі маштаб, што ўлады ПАР — для аказання дапамогі паліцыянтам і каб стрымаць масавыя беспарадкі — вырашылі ўвесці ў шэраг рэгіёнаў вайсковыя фарміраванні. Усё гэта прымушае міжволі задумацца пра загадкавую афрыканскую душу. Тое, што Джэйкаб Зума быў карупцыянерам, не выклікае сумневу. Больш за тое, раней многія паўднёваафрыканцы віталі рашэнне суда, які асудзіў экс-прэзідэнта, і лічылі гэта доказам вяршэнства закона ў краіне.

Тое, што цяпер людзі выходзяць на вуліцы, патрабуючы свабоды для карупцыянера, збольшага можна растлумачыць родавай салідарнасцю. Ачаг бунту за вызваленне экс-прэзідэнта знаходзіцца ў зоне дзе пражывае клан Зума. Таксама гвалту мог спрыяць ненавісці для моладзі каранцін, які ўлады зноў абвясцілі два тыдні таму.

Так ці інакш, паступова гвалт ужо набывае палітычную афарбоўку. Левая папулісцкая апазіцыйная партыя EFF (Змагары за эканамічную свабоду) заклікала салдат вярнуцца ў свае казармы. У адваротным выпадку прыхільнікі EFF далучацца да пратэстаў.

# «Засвяціла надзея вызвалення

Павел БУЛАТЫ

**Ігнат Дамейка праславіўся ў далёкай Чылі, але маладосць навукоўца з сусветнай вядомасцю прайшла ў паўстанцкіх шыхтах на радзіме. Невядомыя эпізоды паўстання 1830-га Дамейка красамоўна занатаваў ва ўласных успамінах. Гістарычныя акалічнасці аўтар свядома пакідае без увагі, у сваім дзённіку ён апісвае толькі тое, што бачыў сам.**



Адыход у прусы

Калі агулам разважаць пра вызвольнае паўстанне 1830–1831 гадоў, то можа падацца, што яно, знаходзячыся ў цені паміж паўстаннямі 1794-га і 1863-га, нібыта згубілася ў гістарычнай памяці. Цяжка адразу прыгадаць яго яскравых лідараў, агульны ход, значныя бітвы і акцыі… Наступствы паўстання былі сур'ёзныя — разгром эліты, высылка і пакаранне актыўных удзельнікаў, масавая эміграцыя, канфіскацыя маёмасці, увядзенне жорсткага ўнутранага рэжыму кіравання. Актыўнымі ўдзельнікамі ўзброенага супраціву былі прадстаўнікі шляхецкага саслоўя (недарэмна падзеі 1830–1831 гадоў у айчынных школьных падручніках называліся «шляхецкае паўстанне»), сярод іх — малады выпускнік Віленскага ўніверсітэта Ігнат Дамейка, які пасля гучнай «справы філаматаў» жыў у сваім родным маёнтку Заполле, што ў Лідскім павеце, пад пільным наглядам паліцыі. Як толькі хваля паўстання дайшла да мясцін Дамейкі, ён без сумневу далучаецца да барацьбы, пра якую больш чым праз 50 гадоў напіша каштоўныя ўспаміны, якія адкрываюць невядомыя, забытыя старонкі гісторыі свайго і нашага змагання за незалежнасць.



Ігнат Дамейка, акварэльны партрэт Ю. Куроўскага

### «Мне было сорамна заставацца ўбаку»

Паўстанне для Ігната Дамейкі пачалося са спазненнем. Перад далучэннем да барацьбы было выпрабаванне часам і чаканнем. Узброены супраціў на землях Кароны пачаўся яшчэ ў лістападзе 1830-га, па зыходзе снегу грымнула вестка пра пераможныя бітвы паўстанцаў з войскам Расійскай імперыі пад Грохавым, каля Сточка і вёскі Дэмбэ Вельке… Дамейка з жалем адзначаў, што ў Гарадзенскай губерні ўвесь красавік было спакойна, толькі ладзіліся нарады, вялася падрыхтоўка да выступлення. Гарнізоны расійскіх войск стаялі ва ўсіх павятовых гарадах, падвоіўся паліцэйскі нагляд, кожны дзень з-за Дняпра сцягваліся новыя роты і эскадроны рэгулярнай арміі…

Дамейку брала з кожным днём усё большае нецярпенне: зброя і конь былі напагатове, але далучыцца да супраціву нагоды не выпадала. Тым больш, што некаторыя з яго даўніх сяброў ужо загінулі. Ад гэтага ў Дамейкі гарэла галава, сумленне выбухала вулканам. «Мне было сорамна заставацца ўбаку», — са скрухай пісаў ён ва ўспамінах. Гэтымі словамі ён перадаваў тагачасны настрой многіх насельнікаў зямель Вялікага Княства Літоўскага.

### Трохдзённыя прыгоды Дамейкі

Неўзабаве, увесну 1831 года, магчымасць далучыцца да паўстання ў Дамейкі з'явілася. Адным непагодным ранкам да яго ў сядзібу прыехаў сябар-філамат Станіслаў Казакевіч, які прывёз яму загад ад віленскага Часовага ўрада. У загадзе было сказана, каб Дамейка як мага хутчэй пастараўся прабіцца да галоўнага кіраўніка. І вось праз гадзіну ён ужо быў у дарозе на Горадню! Там, сустрэўшы знаёмага адваката, Дамейка атрымаў ад яго лісты да аднаго шляхціца, які мог паспрыяць пераправаўцы праз Аўгустоўскую пушчу.

У той жа дзень Дамейка прыбыў у маёнтак да правадыра, але застаў яго дома знясіленага толькі што здзейсненай пушчанскай пераправай. Трэба было дачакацца ранка. Як толькі госць з гаспадаром пайшлі спаць у гумно, у маёнтку адразу з'явіліся расійскія жаўнеры. Афіцэр гразіўся спаліць дом, калі не выдадуць гаспадара і паўстанцаў. Яны ўзялі ў закладнікі 15-гадовага парабка, пачалі яго збіваць, каб той выдаў месцазнаходжанне пана… Вобшук і збіццё цягнуліся больш за гадзіну, але драгуны не знайшлі схаваных у сене Дамейку і гаспадара і пад жудасную лаянку і праклёны з'ехалі з маёнтка. Такой была першая сустрэча паўстанца Дамейкі з расійскім войскам.

На другі дзень гаспадар маёнтка даў Дамейку правадыра, каб той дабраўся да бліжэйшага партызанскага атрада. Пасля доўгай дарогі яны зайшлі ў дом солтыса, каб адпачыць. Там было шмат людзей, вялася гамонка… Дамейка выпіў з гаспадаром па чарцы гарэлкі і праз некалькі хвілін зрабіў памылку, якая ледзь не каштавала яму жыцця. Да яго падсеў чалавек, спытаў нешта па-нямецку. Ігнат яму адказаў. Неўзабаве хата солтыса апусцела, на падворку з'явіліся партызаны, якія нічога не кажучы, павялі Дамейку ў лес. Уночы прыйшлі ў табар партызан, там Дамейку прывязалі да вялікай хвоі (на той момант ён ужо зразумеў, што большасць партызан была нецвярозая). Неўзабаве да яго падышоў ксёндз і сказаў: «Уцякай! Большая частка нашых падпіла, нейкі шпіён выдаў нас. Солтыс паведаміў, што злавілі прусака, — і прысудзілі цябе расстраляць. Уцякай!»

**У паўстанні бралі ўдзел усе станы. Як ўспамінае Дамейка, тут былі і сяляне, і парабкі, і засцянковая шляхта, і мяшчане, былі і панічы на добрых конях, і некалькі ксяндзоў. Сярод паўстанцаў вылучаліся егеры і леснікі з пёрамі на шапках**

Дамейка хутка пакінуў атрад п'яных партызан, перачакаў ноч у лесе і назаўтра дабраўся да Горадні, а адтуль — простай дарогай вярнуўся ў свой маёнтак Заполле.

Тым часам паўстанне разгаралася ўжо на Літве, хадзілі чуткі, што французы гатовыя прыйсці на дапамогу, англічане выслалі зброю. Зноў яго апанавала нясцерпнае чаканне… Але мінуў травень, і паўстанцкія войскі на чале з генералам Дэзыдэрыем Хлапоўскім занялі Ліду. Дамейка ўрэшце далучыўся да атрадаў. У ноч перад ад'ездам ён упарадкаваў гаспадарчыя рэестры і паперы, занёс кнігі на гарышча. Зранку, памаліўшыся, «пацалаваў родную зямельку», жвава падхапіўся на каня і рушыў за войскам паўстанцаў.

### Ветэраны і філаматы бяруцца за зброю

З успамінаў Дамейкі можна дакладней уявіць, хто былі тыя годныя людзі, якія ў 1830 годзе ўзяліся за зброю і далучыліся да вызвольнага паўстання.

Найперш, гэта так званыя «жаўнеры старой службы» — тыя, хто ўдзельнічаў у напалеонаўскіх войнах, праходзіў службу ў рэгулярным войску. Гэтыя салдаты і афіцэры былі асноўнай паўстанцкай арміі. Пабачыўшы іх пад Лідай, Дамейка з захапленнем адзначаў, як ішлі маршам на добрых конях уланы ў сініх мундзірах з чырвонымі адваротамі. Ён называе іх дзецюкі-выбранцы, чыста, франтавата апранутыя, якія нібыта выйшлі на парад у Варшаве… Старыя салдаты (у тым ліку і па ўзросце, бо ад кампаніі 1812 года прайшло больш за 20 гадоў) трымаліся сваіх адасобленых атрадаў, не змешваліся з шыхтамі добраахвотнікаў, якія далучаліся да паўстання. Але яны таксама выконвалі ролю інструктараў, якія навучалі паўстанцаў вайсковай грамаце.

Вылучыліся сярод паўстанцаў студэнты і выкладчыкі Віленскага ўніверсітэта, якія пасля задушэння супраціву будзе зачынены царскімі ўладамі. Яны дзейнічалі ў Рудніцкай пушчы, якая знаходзілася недалёка ад іх alma mater. Легіён віленскіх студэнтаў налічваў больш за сотню маладзёнаў. Дамейка



# і вяртання да незалежнасці»

пабачыў іх схуднелымі, але жвавымі і вясёлымі. Шмат хто меў паляўнічыя стрэльбы, вінтоўкі, здабытыя ў баях з непрыяцелем, насілі палашы і дзіды, за пасам тырчаў пісталет. Побач са студэнтамі змагаліся і выкладчыкі, як, напрыклад, прафесар Віленскай гімназіі, спецыяліст па антычнай літаратуры Герард Гранастайскі і ўніверсітэцкі бібліятэкар Контрым.

Не толькі дзейсныя, але і былыя навучэнцы ўніверсітэта далучыліся да барацьбы. Перш за ўсё — удзельнікі тайных таварыстваў філаматаў і філарэтаў, чальцом якіх з'яўляўся сам Дамейка. Пасля гучнага працэсу над выхаванцамі Віленскага ўніверсітэта 1824 года яго самыя актыўныя ўдзельнікі апынуліся ў выгнанні. Калі пачалося паўстанне Ян Чачот і Тамаш Зан былі ў высылцы на Урале, у эміграцыю падаліся Адам Міцкевіч і прымкнуўшы да яго Антоні Адынец, іншыя знаходзіліся ў аддаленых губернях Расійскай імперыі. Але не ўсе. Больш за 80 удзельнікаў таемнага таварыства засталіся на радзіме пад пільным наглядам паліцыі і ў важны момант далучыліся да барацьбы, з інтэлектуальнай глебы перайшлі да ўзброенага супраціву. Сваіх сяброў па таварыству — Казакевіча, легендарнага Валовіча, Забелу і іншых — часта згадвае Дамейка ў кантэксце паўстання.

У паўстанні бралі ўдзел усе станы. Красамоўна пра гэта ўспамінае Дамейка: тут былі і сяляне, і парабкі, і засцянковая шляхта, і мяшчане, а былі і панічы на добрых конях, і некалькі ксяндзоў. Сярод паўстанцаў вылучаліся егеры і леснікі з пеўневымі пёрамі на шапках. Гэтымі каларытнымі знаўцамі ляснога гушчару камандаваў старшы ляснічы Белавежскай пушчы швейцарац Ронке. Атрады паўстанцаў-добраахвотнікаў на выгляд значна адрозніваліся ад жаўнераў старой службы. Яны былі розна ўзброеныя і ў вопратцы разнастайнага крою і колеру. А былі і тыя, хто насіў трафейныя мундзіры расійскага войска. У іх нават на картузах засталіся расійскія двухгаловыя арлы, але з адарванай адной галавой.

### «Атрад пад камандаваннем Плятэрчанкі»

Паўстанцкія шляхі Дамейкі перакрыжаваліся і з легендарнай удзельніцай барацьбы графіняй Эміліяй Плятэр. І ў занатаваных ім радках, прысвечаных графіні, маецца шмат цікавых акалічнасцей, звязаных з ёй.

Нам добра вядомы вобраз Эміліі Плятэр, які стварыў у сваім вершы «Смерць палкоўніка» Адам Міцкевіч. З яго вынікае, што гераічнай жанчыне прыйшлося таемна пераапрануцца ў юнака, каб сабраць атрад паўстанцаў і далучыцца да барацьбы. Маўляў, ніхто не ведаў, што Плятэр — жанчына. Але ўспаміны Дамейкі паказваюць Эмілію зусім у іншым святле. Так, усе паўстанцы цудоўна ведалі, што побач з імі ваюе паненка, і ставіліся да яе з адпаведнымі манерамі. Дамейка адзначаў, што Плятэр была досыць сур'ёзная, у абыходжанні больш суровая, чым прыветная. Яна была негаваркая і ўжо позіркам давала зразумець, што патрабуе адпаведнага стаўлення і прыстойнасці. Генерал Хлапоўскі прывітаў графіню ветліва і далікатна, ніхто сярод паўстанцаў не дазваляў сабе сказаць у яе прысутнасці што-небудзь недарэчнае ці жартаўлівае.

Пакінуў Дамейка і апісанне знешнасці Эміліі, якое крыху адрозніваецца ад яе «кананічнай» выявы аўтарства Яна Багуміла Разэна. Дамейка прадстаўляе нам вобраз Плятэр як невысокай, бялявай, круглатварай, з прыемным сімпатычным тварыкам, з блакітнымі вачыма, зграбнай, але слабага целаскладу. Апранутая яна была ў шарачковы да кален сурдуцік з чырвоным каўняром і карункавым каўнерыкам вакол шыі. Валасы былі каротка падстрыжаныя, на галаве мужчынская шапка, за поясам кінжал, збоку кароткая шабля, на боціках срэбныя шпоры. Яна была сціплая, на кані трымалася стройна. Усім паказвала адпаведнае вышэйшаму свету выхаванне і абыходжанне.

Эмілія Плятэр камандавала даволі шматлікім, добра абмундзіраваным, узброеным пікамі і палашамі кавалерыйскім атрадам. Суправаджала яго шмат цывільнай моладзі і пешых паўстанцаў. Ад'ютантам Плятэр была таксама паненка Марыя Рашановіч. Як адзначае Дамейка, прыяцелька Эміліі была прыстойная, вясёлая і ўсім сімпатычная.

Шляхі Дамейкі і графіні разышліся пад Куршанамі (недалёка ад Шаўляя), калі полымя паўстання амаль было загашаным. Ён згадвае яе «развітальны, па-шляхецку ганарлівы апошні позірк»...


Война Косак. Эпізод Паўстання 1830 года

### Баявы побыт у Коўна

Сярод вайсковых спраў асаблівую ўвагу Дамейка надае знаходжанню паўстанцаў у Коўна. Яшчэ напрыканцы чэрвеня 1831 года адбылося злучэнне амаль усіх асобных партызанскіх атрадаў з паўстанцкай дывізіяй генерала Гелгуда і Хлапоўскага. Былі там паўстанцы з розных куткоў былой Рэчы Паспалітай — пазнанцы, галічане, падаляне, літвіны... На вайсковай нарадзе было вырашана ўсім аб'яднаным войскам рушыць на Вільню. Але тое вайсковае спалучэнне, дзе знаходзіўся Дамейка, для прыкрыцця тылу было накіраванае ў Коўна.

Горад на Нёмане паўстанцы занялі без асаблівых цяжкасцяў, бо там не было аніводнага расійскага жаўнера (толькі параненыя і хворыя ў гарадскім шпіталі). У Коўна паўстанцаў сустрэлі добра, з дапамогай гарадской рады войска атрымала нямала абутку для жаўнераў, досыць харчавання, хлеба і мяса. Невялікі паўстанцкі атрад стаяў у горадзе каля двух тыдняў.

Амаль адразу камандзіры і інструктары ўзяліся за вайсковае навучанне і штодзённую муштру жаўнераў. Але яна не мела асаблівага сэнсу. Дамейка прызнаецца, што нехапала зброі больш чым палове паўстанцаў, якія стаялі ў Коўне. Афіцэры бавілі вечаровы час у заможных гараджан, якія нават аднойчы далі баль у гонар Эміліі Плятэр. Сам жа Дамейка піша, што ў тых гулях і гасцінах не ўдзельнічаў. Ён начамі аб'язджаў фарпосты, вёў палкавы кантроль. Акрамя таго, ён займаўся рэвізіяй яўрэйскіх крам. У выніку для войска былі здабыты (пры падтрымцы гарадской рады) волава і порах, а таксама сукно для абмундзіравання.

Тым часам асноўныя войскі пацярпелі сур'ёзную паразу пад Вільняй і адступалі на Коўна, расійскія ж войскі перайшлі ў наступ. Неўзабаве каля Коўна паказаліся раз'езды казакаў, паўстанцы з боем пачалі адступаць. Тая групоўка паўстанцкіх войск, якая пацярпела паразу пад Вільняй, аказалася адрэзанай ад тых спалучэнняў, якія яшчэ вялі змаганне недалёка ад Варшавы. Правадыры аказаліся перад складаным выбарам і пытаннем, а што рабіць далей: прарывацца да асноўных сіл ці адыходзіць да Прусіі?

Дамейка прызнаваў відавочнае, што пасля адступлення і пастаянных сутычак з вялікімі сіламі ў жаўнераў і афіцэраў было паслабленне духу і веры ў сябе. Слабела дысцыпліна і падаў энтузіязм нават у прызычаеных да суровага парадку жаўнераў старой службы. Некаторыя ў паўстанцкіх шэрагах яшчэ спадзяваліся на інтэрвенцыю Францыі ў Расію, вайсковую дапамогу англічан... На вялікай вайсковай нарадзе было прынята складанае і супярэчлівае рашэнне, якое падтрымалі не ўсе: адступаць у Прусію. Шмат хто яго палічыў ганебным, а камандзіраў, якія яго прынялі, — здраднікамі.

Паўстанцы адыходзілі. Перадавыя атрады, як занатаваў Дамейка, убачылі на мяжы ненавісны слуп з намаляваным на ім чорным арлом, пачаўся ганебны пераход у прусы. А пасля — вымушаная эміграцыя для тысяч мужных патрыётаў.

***

Ігнат Дамейка (1802–1889) — сябар таемнага таварыства філаматаў, адзін з самых знакамітых выпускнікоў Віленскага ўніверсітэта, удзельнік Лістападаўскага паўстання 1830–1831 гадоў, навуковец-геолаг. Большую частку жыцця правёў у Чылі, дзе заслужыў высокую пашану: яго імем названая малая планета і горны хрыбет, мінерал дамейкіт і малюск, гатункі кветак і кактуса, невялікі горад у Чылі і з дзясятак вуліц па ўсім свеце. Пра сваё доўгае жыццё Дамейка пакінуў мемуары.


Войцэх Косак. Эпізод Паўстання 1830 года

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Працягваем знаёміць з тымі, у каго дзень народзінаў у ліпені.**

### 19 ліпеня

38-годдзе сустрэне за кратамі **Ігар Салавей,** актывіст Руху «За Свабоду!». У 2006 годзе збіраў подпісы за Аляксандра Мілінкевіча і атрымаў 10 сутак за «Плошчу». Быў затрыманы па справе аб масавых беспарадках у Пінску ў жніўні 2020-га.



Суд Маскоўскага раёна Брэста 30 красавіка вынес прысуд па крымінальнай справе па ч. 2 арт. 293 супраць 14 пінскіх палітвязняў, якіх абвінавацілі ва ўдзеле ў масавых беспарадках у ноч з 9 на 10 жніўня ў Пінску. Ігара Салаўя асудзілі да 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

### 20 ліпеня

32 гады споўніцца **Алене Валер'еўне Талкачовай** — журналістцы TUT.BY.

Пачала працу ў TUT.BY у 2014 годзе. Спачатку яна была журналістам раздзелу «Будаўніцтва і нерухомасць», а праз пару гадоў перайшла ў раздзел «Грошы і ўлада». Калегі кажуць пра яе як пра дзяўчыну, якая ўмее задаваць прадстаўнікам улады вострыя пытанні.

«Калі хтосьці з калегаў патрапляў у РУУС або ІЧУ, яна першай збірала рэчы для перадачы, ехала да будынка і старалася



дапамагчы», — кажуць калегі. Журналістка любіць хадзіць на фітнес, бегае і кіруе яхтамі. А яшчэ паўгода таму яна завяла сабаку па мянушцы Тоні Старк.

Алена была затрыманая 18 траўня ў рамках крымінальнай справы, распачатай супраць TUT.BY за ўхіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры (ч. 2 арт. 243 КК).

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

### 21 ліпеня

22 гады споўніцца **Антону Ігаравічу Лакішыку** — тэхніку з Мінска. Суд Цэнтральнага раёна



18 лістапада асудзіў яго за напад на амапаўца 14 ліпеня на Нямізе да трох гадоў калоніі. Супрацоўнік мінскага АМАПу не атрымаў цялесных пашкоджанняў і не звяртаўся ў медыцынскія ўстановы. Хлопца затрымалі ў зале суда для адбыцця пакарання. Утрымліваўся ў СІЗА-1.

Мінскі гарадскі суд 9 лютага разгледзеў апеляцыйную скаргу 21-гадовага палітвязня Антона Лакішыка. Пракурор прапанаваў суду знізіць палітвязню пакаранне на адзін год калоніі. Але Мінгарсуд пакінуў прысуд без зменаў — 3 гады калоніі.

Адрас для лістоў: ПК №2. 213800, г. Бабруйск, вул. Сікорскага, 1.

### 22 ліпеня

45-годдзе сустрэне за кратамі **Алена Уладзіміраўна Маўшук.** Яе затрымалі ноччу 10 жніўня ў Пінску. Муж Алены не ведаў пра яе месцазнаходжанне і стан жонкі на працягу чатырох сутак з моманту затрымання. Пазней з ім звязалася сукамер-



ніца жанчыны і распавяла, што Алена знаходзіцца ў камеры «голая, босая, збітая». Са словаў гэтай жанчыны, Алена ў камеру патрапіла ўся ў сіняках. У Алены Маўшук трое дачок: адна — паўнагадовая, дзве — малалетнія. 10-гадовую Ангеліну 17 верасня са школы забралі ў сацыяльны прытулак, таму што муж Алены з'яўляецца яе айчымам. Як паведаміла Алена ў сваіх лістах, палітзняволеную ў СІЗА паставілі на ўлік як «схільную да захопу адміністрацыі з захопам закладнікаў і праявы агрэсіі».

Суд Маскоўскага раёна Брэста 30 красавіка вынес прысуд па крымінальнай справе па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэкса супраць 14 пінскіх палітвязняў, якіх абвінавацілі ва ўдзеле ў масавых беспарадках у ноч з 9 на 10 жніўня ў Пінску. Алену Маўшук асудзілі да 6 гадоў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

39 гадоў споўніцца **Віктару Анатольевічу Лосіку.** Ён быў сябрам ініцыятыўнай групы грамадзян Віктара Бабарыкі, збіраў подпісы ў яго падтрымку, быў валанцёрам у аб'яднаным штабе, дапамагаў ініцыятыве «Сумленныя людзі». На прэзідэнцкіх выбарах быў незалежным назіральнікам на ўчастку ў Хацежына. Віктар жанаты, у яго двое дзяцей.

Быў затрыманы 6 снежня 2020 года ў пасёлку Хацежына Мінскага раёна супрацоўнікамі МУС. Яго абвінавацілі ў тым, што павесіў на мосце пудзіла з фотаздымкамі міністра ўнутраных справаў і старшыні выбар-



чай камісіі хацежынскага ўчастка для галасавання з надпісам: «Не забудем, не простим!», а таксама ў нанясенні выяваў з беларускім нацыянальным гербам «Пагоня» на збудаваннях і апорах моста.

Віктара Лосіка прызналі вінаватым па арт. 339, 341 Крымінальнага кодэксу і асудзілі да двух гадоў калоніі па ч. 1 арт.339, да чатырох гадоў калоніі — па ч. 2 арт. 339, да месяца арышту — па арт. 341. У выніку праз паглынанне больш мяккага пакарання больш строгім Віктар Лосік асуджаны да чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

### 23 ліпеня

31 год споўніцца **Арцёму Андрэевічу Саўчуку.** Ён праграміст, захапляецца аўтамабілямі і сноўбордам. Апошнія 9 гадоў Арцём жыў у Польшчы, у Кракаве.

Яму прад'яўленае абвінавачанне паводле ч. 2 арт. 293 КК.

«Арцём кіраваўся альтруізмам і не меркаваў, для якіх мэтаў будуць выкарыстаны каляскі, — адзначыў на пасяджэнні адвакат палітвязня



Сяргей Лебедзеў. — Менавіта за тое, што, не разабраўшыся ў сітуацыі, праявіў спагадлівасць, ён цяпер і прыцягваецца да крымінальнай адказнасці».

Дзявятага лютага суд Фрунзенскага раёна агучыў прысуд 30-гадоваму палітвязню. Яго асудзілі да чатырох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Адрас для лістоў: ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.

29-годдзе сустрэне за кратамі **Дзяніс Васільевіч Жук** — жыхар Брэста, затрыманы 26 лістапада па справы аб масавых беспарадках у горадзе ў жніўні.

У той жа дзень па месцы жыхарства і месцы прапіскі Дзяніса прайшоў ператрус. Яму прад'яўлена абвінавачанне па ч. 2 арт. 293 КК РБ — удзел у масавых беспарадках.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.

### 24 ліпеня

20-годдзе сустрэне за кратамі **Павел Міхайлавіч Дворак** — жыхар Мазыра, футбольны фанат, затрыманы 4 траўня з дапамогай ГУБАЗіК і САХР. Яму прад'яўлена абвінавачанне па арт. 342 КК. Гэтая крымінальная справа распачата за акцыі пратэсту, якія адбываліся ў горадзе ў жніўні 2020 года пасля прэзідэнцкіх выбараў.

Адрас для лістоў: СІЗА-3. 246003, г. Гомель, вул. Кніжная, 1А.

### 25 ліпеня

19-годдзе сустрэне за кратамі **Ціхан Вітальевіч Клюкач.** Быў затрыманы 26 верасня, а затым яго некалькі разоў асудзілі агулам на 45 сутак арышту за ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах. Пасля адбыцця арышту яго этапавалі ў Мінск, а адтуль 3 снежня — у СІЗА Жодзіна.

Ціхана абвінацілі паводле арт. 342 КК і ч. 2 арт. 339 КК па падзеях 6 верасня на «Маршы адзінства» ў Мінску. Тады Ціхан разам з Сафіяй Малашэвіч размалёўваў балончыкам з фарбай шчыты спецыяльных сродкаў загароджы.

Падчас суда пракурор адмовіўся ад абвінавачання Ціхана Клюкача па ч. 2 арт. 339. Яму вынесены прысуд: адзін год і шэсць месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму (па ч.1 арт. 342).

Адрас для лістоў: ПК №15. 213105, г. Магілёў, п/а Вейна, Слаўгарадская шаша, 183.

## ВЫРАТУЙ ЖЫЦЦЁ



# Ата засталася адна. Тэрмінова патрэбна дапамога

Дзмітрый ДЗМІТРЫЕЎ

Ата яшчэ ўчора павольна шпацыравала побач з гаспадыняй. Але мінула некалькі гадзін — і звыклы лад жыцця зруйнаваўся... Больш няма пяшчотных ручак, больш ніколі не прагучыць знаёмы голас, які заве на шпацыр ці на сняданак. Сталая Ата засталася адна.

Заўчасная смерць клапатлівай гаспадыні пакінула гэтую дзяўчыну адну.

Што зробіш, будзем знаёміцца. Ата, каля 9 гадоў, залацісты лабрадор-рэтрывер, добра выгадаваная, ведае мноства каманд.

Калі побач з ёй размаўляюць людзі, здаецца, яна ўсё разумее. Добра паводзіць сябе на шпацыры без ланцужку, вельмі сябруе з усімі сабакамі ды катамі.

Ата любіць падарожнічаць, звыклая да актыўнага ладу жыцця, вельмі любіць плаваць і добра сябруе з дзецьмі.

Цяпер яна сумуе, але будзе вельмі ўдзячная вам, калі вы возьмеце яе да свайго далейшага жыццёвага падарожжа — Ата не падвядзе!

+ 375 (29) 641-47-65 Вольга

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1189

Падпісана да друку 15.07.2021. 8.00. Наклад 5500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.